ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

24 САКАВІКА 1995 г. № 12 (3784) Кошт 200 руб.





## "ЖЫЦЦЮ ЭЛІТЫ НЕ ВАРТА ЗАЙЗДРОСЦІЦЬ..."

Аляксандр ЛЮЦКО: "Эліта — гэта стагоддзі... А ў нас — стагоддзі ненатуральнага адбору. Нацыя даведзена да знямогі, да элітарнага бяссілля. І самае прыкрае адбываецца цяпер: эліта з'язджае, бо ёй якраз у нас не выжыць... Надта цяжка выжыць. А эліта — гэта тое, што з-за мяжы не запросіш. Нам бы засяродзіцца на яе падтрымцы... Эліта не адно з'язджае, але і разбэшчваецца, раздуваецца! Я ў свой час шмат плаваў (працаваў на марскім судне) і бачыў, як з жабрацтва ды галечы паўставалі краіны Паўднёвай Азіі — прыклад Сінгапура ці не самы красамоўны. За кароткі тэрмін можна, можна зрабіць, каб краіна твая квітнела, і я вас запэўніваю, што гэта абсалютна (прашу падкрэсліць) не залежыць ад энерганосьбітаў. Абсалютна! Нам патрэбны пісьменныя кіраўнікі. Проста — пісьменныя, а не перасаджаныя з адных крэслаў у другія. Я валодаю звесткамі сусветнай сацыялогіі: каб краіна квітнела, патрэбны элітарныя інтэлектуальныя высілкі ўсяго 2% насельніцтва: гэтыя драбнюткія адсоткі, па сутнасці, і вызначаюць усё — гісторыю, навуку, культуру, мінулае, будучыню..."

*(Гутарку з рэктарам Беларускага інстытута радыялогіі і радыеэкалогіі імя А.Сахарава Аляксандрам Люцко чытайце на стар. 10—11).*

*Што і казаць, меў рацыю дзядуля Крылоў, калі пісаў: "У сильного всегда бессильный виноват". Сочачы за падзеямі ў Чачні, мы не раз маглі ў гэтым упэўніцца. І вось крылоўскі пастулат атрымаў яшчэ адно пацвярджэнне: варта было Кіеву паспрабаваць паставіць на месца Сімферопаль, як у Маскве ўсчаўся несусветны гвалт. Атрымліваецца: вайна ў Чачні — гэта ўнутраная справа Расіі, а канфрантацыя ў Крыме — справа не суверэннай Украіны, а найперш — Расіі. Абсурд, дый годзе... З неаслабнай увагай сочаць расійскія палітыкі і за развіццём падзей на Беларусі. Пазіцыя нашага прэзідэнта не можа не падабацца ім. У сваім апошнім выступленні ён усялякую крытыку ў адрас Расіі назваў антыдзяржаўнай (!?). Знойдзены і ворагі, якія перашкаджаюць імкненню прэзідэнта да цеснага саюза з Расіяй. Гэта бэнээфаўцы, беларускія "нацыяналісты", апазіцыянеры...*

## ВЫСТУПЛЕННЕ ТЫДНЯ

Калі ў каго-небудзь з патрыётаў Беларусі і былі яшчэ нейкія надзеі на тое, што дырэктар саўгаса А.Лукашэнка, стаўшы прэзідэнтам незалежнай дзяржавы Беларусь, прасякнецца гонарам за сваю краіну і будзе абараняць яе інтарэсы, мову, культуру, дык пасля апошняга ягонага выступлення ў парламенце надзеі гэтыя расталі, нібы дым... Абклаўшыся выразкамі з "Народнай газеты", "Свабоды" ды іншых выданняў, прэзідэнт доўга даказваў, якія дрэнныя яны, бо асмельваюцца аналізаваць і нават крытыкаваць курс прэзідэнта на саюз з Расіяй... Прэзідэнт, пэўна, забыўся, інтарэсы якой дзяржавы ён павінен прадстаўляць і адстойваць. У Расіі абаронцаў і без яго хапае. Хай бы лепш пагартаў газеты "Мы и время", "Товарищ", "Советская Белоруссия", "Белорусская нива"... і паглядзеў, колькі бруду выліваюць яны на ягоную (хоча ён таго, ці не хоча) беларускую дзяржаву, мову, сімволіку. І абурыўся...

## СЕНСАЦЫЯ ТЫДНЯ

Як бы там ні было, але Указ N 113 прэзідэнта Беларусі ад 17 сакавіка г.г. стаўся для большасці грамадзян нечаканасцю. Звальненне галоўнага рэдактара "Народнай газеты" І.Сярэдзіча было прадказальным, але ж не такім чынам і не за такую "правіннасць". У лісце, які стаў прычынаю звальнення, і блізка няма закліку да "крыві, насілля, грамадзянскага процістаяння". Там ёсць толькі папярэджанне, перасцярога ад гэтага... Надзіва спакойнай была рэакцыя калектыву "НГ" на звальненне галоўнага рэдактара, яшчэ больш дзіўную пазіцыю заняў парламент. Права прызначаць і здымаць рэдактара свайго выдання мае толькі ён. І абараніць І.Сярэдзіча, няважна пры павазе альбо непавазе да яго і ягоных поглядаў, было справай гонару, годнасці, прынцыпу кожнага дэпутата... Прэзідэнт свайго, можна сказаць, дабіўся. А яшчэ і паказаў сябе ўмелым тактыкам. Ухапіўшыся за абмеркаванне законнасці звальнення І.Сярэдзіча, дэпутаты "праглынулі" амаль не заўважыўшы, закід прэзідэнта на фактычнае ўвядзенне цэнзуры ў нашай дзяржаве, пазначанае ў першым пункце згаданага Указа: "У мэтах выканання заканадаўства ў дзейнасці сродкаў масавай інфармацыі ўнесці прапанову аб стварэнні Наглядальнага Савета пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь..."

## ПРАПАНОВА ТЫДНЯ

Дакладней, гэтую прапанову варта было б назваць ультыматумам. Выступаючы ў парламенце, прэзідэнт агучыў думку, якая даўно лунала ў паветры: заклікаў дэпутатаў прыняць рашэнне аб складанні сваіх паўнамоцтваў, г.зн. самараспусціць Вярхоўны Савет. У супрацьлеглым выпадку прэзідэнт вымушаны будзе зноў скарыстаць свае паўнамоцтвы, паводле сумнавядомага сотага артыкула Канстытуцыі Беларусі, г.зн. распусціць парламент па хатах... Дэпутаты выслухалі прэзідэнта, але пэўнага рашэння пакуль не прынялі.

## ЦЫТАТА ТЫДНЯ

"Цяжка ўявіць сабе тыя адмоўныя вынікі па змене сімволікі, якія напаткаюць нас, калі Беларусь здрадзіць сімвалам, наканаваным ёй гістарычна. Ці можна будзе паважаць такую краіну, яе кіраўніцтва, калі там дзяржаўныя атрыбуты мяняюцца кожныя тры гады? Безумоўна, не. У вачах усяго свету мы станем несур'ёзнай, несамавітай нацыяй, якая не мае ні сваёй гісторыі, ні сваёй будучыні. Я не хацеў бы жыць у такой дзяржаве."

*(З артыкула Анатоля Мяльгуя "Доказы для змены сімволікі будзе цяжка знайсці", "Звязда", 18 сакавіка г.г.).*

## ЗДАРЭННЕ ТЫДНЯ

У ноч з 17 на 18 сакавіка была зроблена спроба абрабавання Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі. Грабежнікі выразалі трое дзвярэй на пяць сантыметраў ніжэй сігналізацыі і, прайшоўшы два паясы сігналізацыі, дабраліся да галоўнага пункту аховы. Там звязалі жанчыну-вартаўніцу, забралі ў яе пісталет. Аднак, калі грабежнікі захацелі падняцца на галерэю, спрацаваў трэці пояс сігналізацыі. Грабежнікі, пакінуўшы ўсе свае інструменты, кінуліся наўцёкі... Знайсці іх пакуль не ўдалося. Па словах дырэктара музея Ю.Карачуна, грабеж, пэўна, быў заказным. Але цяпер трэба зрабіць усё, каб падобны выпадак не паўтарыўся больш ніколі.

## АД РЭДАКЦЫІ

"Кола дзён" — рубрыка спецыфічная. Робіцца яна, як мы неаднаразова падкрэслівалі, на аснове паведамленняў сродкаў масавай інфармацыі Беларусі ды іншых краін. А таму, паводле журналісцкай этыкі, мы не падпісваем яе. Што дае падставы нашым апанентам абвінавачваць нас у ананімнасці. Вядома, падбор інфармацыі і яе каментаванне — справа суб'ектыўная, аўтарская, але мы імкнуліся быць максімальна аб'ектыўнымі, а таму гучала ў "Коле дзён" крытыка не толькі прэзідэнта, але і ягоных апанентаў, у тым ліку і з БНФ. Дык вось, каб апярэдзіць чарговыя абвінавачванні, паведамляем, што "Кола дзён" ад першых выпускаў і да сёння (з невялікімі перапынкамі на адпачынак ці што іншае) рыхтуе да друку Барыс ПЯТРОВІЧ.



З нагоды

# САКАВІЦКАЯ ЗОРКА

Абвяшчэнне незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі — ці не галоўная падзея нашай гісторыі ў XX стагоддзі. Потым больш чым на сем дзесяцігоддзяў зорку закрылі хмары. У 1991 годзе яна зноў зазіхацела над Беларуссю, але, здаецца, людзі развучыліся чытаць зорныя знакі... Будучы гісторык назаве наш час скрутным, драматычным і нават трагічным. Ён напіша, што ва ўмовах, калі суседзі не пагражалі Беларусі збройнай сілай, калі многія акалічнасці (а найперш — геапалітычная сітуацыя) спрыялі ўмацаванню беларускай дзяржаўнасці, калі свой шанц здолелі скарыстаць жамойты, латышы, эстонцы, украінцы — беларусы ледзь не страцілі Беларусь. Выключна з прычыны душэўнай ляноты і нежадання браць на сябе адказнасць за ўласны лёс і лёс сваіх дзяцей. Што вера ў цуд аказалася мацнейшай за здаровы сэнс. Хоць, здавалася б, менавіта беларускі здаровы сэнс і памяркоўнасць, як ягоная праява, ужо сталі "притчей во языцех". Гэты цуд меў розныя назовы — "адзіная рублёвая зона", "адзіная мытная прастора". Але цудаў не бывае. Таму сканала, не нарадзіўшыся, "рублёвая зона", прэзідэнт вымушаны адмаўляцца ад сваіх перадвыбарных абяцанак (маўляў, ён не ўяўляў, што эканоміка ў такім цяжкім стане...). Што ж датычыць "адзінай мытнай прасторы", дык яе абсурднасць для краіны, якая можа някепска жыць за кошт транзіту, хутка стане відавочнай для многіх. Я адвяргаю веру ў цуд, але веру ў Бога. І прымаўку "Бог не папусціць, свіння не з'есць", разумею і ў літаральным, і ў пераносным сэнсе. Беларусь будзе жыць, нягледзячы на сённяшняе далёка не патрыятычнае кіраўніцтва краіны і абыякавасць да лёсу дзяржавы немалой часткі насельніцтва. Бог не хоча, каб наша нацыя знікла з твару Зямлі. Інакш мы не перажылі б жахлівую Маскоўскую вайну XVII стагоддзя; дзвесце год расійскага імперскага, а потым бальшавіцкага тэрору; Курапатаў, Хатыні, Чарнобыля. Калі пасля ўсяго гэтага існуе на карце Еўропы Рэспубліка Беларусь, значыць, справы нашыя не такія ўжо кепскія.

Наўрад ці што-небудзь зменіць і рэферэндум па пытаннях "узаемаадносін з Расіяй", дзяржаўнаму "двуязычию", дзяржаўнай сімволікі. Ён можа ўскладніць сацыяльна-палітычную сітуацыю на Беларусі. Але паколькі адзінства ў грамадстве ўсё роўна няма, дык хай, зрэшты, прорва паміж патрыётамі і астатнімі выявіцца больш выразна.

Увогуле, нельга лічыць рэферэндум сродкам пошуку ісціны. Большасць не заўжды і не паўсюль мае рацыю. Ці даводзілася вам задумвацца над тым, што Ісуса Хрыста адправілі на крыж у выніку ўсенароднага рэферэндуму? Народ іерусалімскі, маючы магчымасць выбару, прагаласаваў за свабоду для Варавы — забойцы і за смерць для Сына Божага.

У 1918 годзе над Беларуссю ўзышла Сакавіцкая зорка — наша зорка Віфліемская. Яе з'яўленне азначала пачатак шляху, вялікага і трагічнага, пачатак новай эры ў гісторыі народа Беларусі. Мы ўжо прайшлі праз Галгофу. Наперадзе — Адраджэнне.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

# ПАЧУЎШЫ МЕЛОДЫЮ МАГУТНАСЦІ

З 10 па 13 сакавіка доўжылася "Маладзечанская сакавіца", фестываль тэатральны, своеасаблівы і хрышчаны крытыкамі "вялікім мінскім дэсантам на маладзечанскую зямлю". Шэрагі мінчукоў, праўда, мацаваў Маскоўскі тэатр імя Ярмолавай і павялічваў Мінскі абласны драматычны тэатр з самога Маладзечна, а зацікаўленасць горада як ніхто выказала Таццяна Бабей, намеснік дырэктара Маладзечанскай беларускай гімназіі па эстэтычнай адукацыі і кіраўнік узорнага тэатра-студыі: "Мы шчаслівыя займець сваё свята тэатра. У горадзе ёсць шмат тэатральнай публікі, якая ў поўным сэнсе слова жыве ад прэм'еры да прэм'еры".

Таццяна Бабей над усімі спектаклямі паставіла "Лебядзіны спеў" А.Чэхава — драматычны эцюд, частку будучага спектакля Вітаўтаса Грыгалюнаса, дзе вялі рэй Алег Корчыкаў ды Ігар Забара. Але гэтае яе меркаванне літаральна супала з меркаваннямі большасці крытыкаў і чальцоў журы ("якое няможна лічыць журы", як нам тлумачылі на адкрыцці: фестываль не прадугледжваў абавязковых месцаў). Услед за Альтэрнатыўным называўся спектакль малой сцэны Акадэмічнага рускага тэатра "Вячэра" Ж.-К.Брысвіля з Расціславам Янкоўскім ды Юрыем Сідаравым (рэжысёр Вячаслаў Осіпаў), а таксама масквічы Уладзімір Андрэеў ды Вольга Матушкіна, якія прадстаўлялі спектакль Уладзіміра Андрэева паводле Л.Зорына "Знікшы сюжэт". Але самым найпрыязным чынам грамада паставілася да жарту (або не жарту?) Аляксея Дударава, які паведаміў, што ўсе прызы абвешчаны галоўнымі. Руплівасць маладзечанскіх уладаў на чале з мэрам Станіславам Татарыновічам ядналася і з меладычнай магутнасцю фірмы "Дайнова", якую на тэатральным фэсце прадстаўляў Ігар Берднік. Побыт фестывальны быў наладжаны ды аплачаны кожнаму з удзельнікаў (красамоўная дэталька — сам спадар мэр каторы месяц не атрымлівае зарплаты, бо, калі я правільна зразумела, ейны памер ніяк не могуць вызначыць спадары ўрадоўцы). Пра палёгку побыту пазафестывальнага падбала "Дайнова", узнагародзіўшы ўдзельнікаў кававаркамі, электрабрытвамі, пыласосамі ды іншай адметнай хатняй тэхнікай дарагой фірмы "Філіпс". Самым дарагім, аднак, сталася абвестка "Дайновы", якую давёў да прысутных І.Берднік: мелодыя магутнасці загучыць на ўсіх буйных маладзечанскіх фэстах, "Дайнова" бярэцца іх падтрымліваць... утрымліваючы.

А ўсе галоўныя прызы размеркаваліся паміж: Аўгустам Мілаванавым, Сяргеем Краўчанкам, Валерыем Раеўскім, Валерыем Мазынскім, Расціславам Янкоўскім (які дасціпна заўважыў, што надышла пара дзейнічаць Савам Марозавым — не ўсё ж Паўлікам), Юрыем Сідаравым, Святланай Кузьміной, Сяргеем Жураўлём, Віталем Катавіцкім, Таццянай Жахоўскай, Вольгай Лужкоўскай, Ігарам Забарам, Алегам Корчыкавым, Вітаўтасам Грыгалюнасам, Барысам Луцэнкам (яму хаўрус Аляксея Дударава і Генадзя Карпенкі нагадаў спатканне Станіслаўскага і Неміровіча-Данчанкі), Таццянай Грасевіч ды Віктарам Багушэвічам (Маладзечна), Уладзімірам Забэлам, Зіновіем Марголіным, Аленай Іваннікавай.

Сімвал фестывалю, Стэфанія Станюта паміналася ці не ў кожным другім выступленні.

Марыя Захарэвіч узяла на сябе асноўны цяжар спатканняў з публікаю і выступленняў перад ёю.

Студэнты Маладзечанскай музычнай вучэльні аздаблялі свята тэатра дыхтоўным выкананнем... таго, чаго жадалі душы наведнікаў для адпаведнага настрою. Спадар дырэктар вучэльні, Рыгор Сарока, быў заўважаны і апазнаны гасцямі на шмат якіх спектаклях, дарэчы, як і Надзея Сідарэнка, па пасадзе — загадчык аддзела культуры гарвыканкама, па натхненні ды схільнасцях — упарты тэатрал. Менавіта яна настойвала на задачы "Маладзечанскай сакавіцы" перадусім утварыць гарадское свята, — і я мушу браць пад увагу яе словы ў ацэнках мастацкіх праяў, якія складалі фестываль. Але пра гэта — у бліжэйшых нумарах "ЛіМа".

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

Парламент

# СУПРАЦЬ ЛОМУ НЯМА ПРЫЁМУ?

Кароценькая інфармацыя ў апошніх паведамленнях па радыё — як гром сярод яснага неба: "Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка за публікацыю матэрыялу пад рубрыкай "Пісьмо да прэзідэнта" неўстаноўленага аўтара ў "Народнай газеце" за 10 сакавіка 1995 года, які заклікае да насілля і грамадзянскага процістаяння, вызваліў ад пасады галоўнага рэдактара гэтай газеты Сярэдзіча Іосіфа Паўлавіча".

Зняў рэдактара за "Пісьмо да прэзідэнта"? Ды яшчэ рэдактара газеты — органа Вярхоўнага Савета?

Пакіну за рамкамі гэтых нататак ацэнку зместу таго злашчаснага "пісьма". Скажу толькі, што і я не з усімі думкамі яго аўтара гатоў пагадзіцца, але ж справа не ў пісьме, нават не ў самім рэдактары газеты, справа ў тым, ці быў законным гэты крок прэзідэнта.

Як і трэба было чакаць, Указ А.Лукашэнкі стаў адразу ў цэнтры ўвагі сесіі Вярхоўнага Савета, якая пасля чарговых канікул аднавіла сваю работу. Тон у гэтым напрамку задалі яшчэ выступоўцы ў "Розным". У прыватнасці, лідэр апазіцыі БНФ Зянон Пазняк заявіў, што прэзідэнцкі Указ незаконны, бо галоўны рэдактар "Народнай газеты", якая з'яўляецца органам Вярхоўнага Савета, прызначаецца на пасаду і вызваляецца з яе, згодна з існуючым заканадаўствам, толькі сесіяй вышэйшага органа заканадаўчай улады. Апроч гэтага, І.Сярэдзіч з'яўляецца дэпутатам Вярхоўнага Савета і на яго распаўсюджваецца дзеянне Закона "Аб статусе дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь". Адзначыў прамоўца і тое, што Указ прэзідэнта парушае нядаўна прыняты Закон "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі". У тым жа "Розным" З.Пазняка падтрымалі дэпутаты Л.Дзейка, М.Аксаміт і інш. Але і пасля гэтага на працягу амаль усяго дня ў Авальнай зале Дома ўрада кіпелі страсці вакол нагаданага Указа, у якім многія дэпутаты ўбачылі спробу накінуць удаўку на вольнае слова, вольную прэсу. Па ініцыятыве намесніка старшыні Камісіі па сродках масавай інфармацыі і правах чалавека Анатоля Вярцінскага ўвазе дэпутатаў быў прапанаваны праект пастановы Вярхоўнага Савета "Аб антызаконным Указе Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнкі ад 17 сакавіка 1995 года N 113", якім парушаны некаторыя артыкулы Канстытуцыі, шэраг артыкулаў законаў аб статусе народнага дэпутата, аб Вярхоўным Савеце, аб

# ПРОСІМ УЗБУДЗІЦЬ СПРАВУ...

## ВЫКОНВАЮЧЫ АБАВЯЗКІ СТАРШЫНІ КАНСТЫТУЦЫЙНАГА СУДА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ СП. ЦІХІНЮ В. Г.

Паважаны старшыня!

Дзесяткі гадоў вучні нашай краіны, якія заканчваюць беларускія школы, не маюць магчымасці атрымаць вышэйшую адукацыю на беларускай мове. Так было ў часы існавання СССР. Сітуацыя практычна не змянілася і ў часы незалежнай Рэспублікі Беларусь.

Сёлета 13 тысяч вучняў закончаць беларускія школы, а для далейшага навучання на беларускай мове ў ВНУ нашай краіны ўведзена ўсяго некалькі педагагічных спецыяльнасцей. Выкладанне тэхнічных, эканамічных, вайсковых, прыродазнаўчых і інш. спецыяльнасцей на беларускай мове ніводная вышэйшая навучальная ўстанова Беларусі практычна не вядзе.

За апошнія пяць гадоў, як прыняты Закон аб мовах, бацькі і грамадскасць Беларусі неаднаразова звярталіся ў Міністэрства адукацыі, у Савет Міністраў і Вярхоўны Савет з просьбамі адкрыць Беларускі дзяржаўны нацыянальны універсітэт, у якім бы вучні беларускіх школ маглі працягнуць сваю адукацыю, але так і не дачакаліся станоўчага адказу.

На зварот да Прэзідэнта Беларусі з адкрытым лістом, які быў надрукаваны ў "Народнай газеце" 26 кастрычніка 1994 года, быў дадзены адказ Міністрам адукацыі сп. В. Стражавым, які па сутнасці з'яўляецца адпіскай. З яго адназначна вынікае, што пытанне аб нацыянальным універсітэце раней 1998 года разглядацца не будзе.

13 тысячам вучняў патрэбны шматпрофільны Беларускі дзяржаўны нацыянальны універсітэт зараз, а не ў 1998 годзе. Мы — беларусы, грамадзяне сваёй краіны, жывём на сваёй зямлі, плацім падаткі, і маем поўнае натуральнае і юрыдычнае права вучыць дзяцей у ВНУ на сваёй мове, якая да таго ж дзяржаўная. Сітуацыя, што склалася ў сістэме вышэйшай адукацыі краіны, — гэта дыскрымінацыя беларусаў па нацыянальнай прыкмеце, парушэнне канстытуцыйных правоў.

Просім Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь узбудзіць ад свайго імя справу аб парушэнні Міністэрствам адукацыі Беларусі канстытуцыйных правоў грамадзян Беларусі вучыцца па-беларуску ў сістэме вышэйшай адукацыі. Гэтыя правы замацаваныя ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь (арт. 59), Законе аб адукацыі (арт. 6) і Законе аб мовах (арт. 25).

З просьбай да Вас звяртаюцца арганізацыі, якія прадстаўляюць многія тысячы грамадзян Беларусі.

**Гарадскі бацькоўскі камітэт беларускамоўных школ і класаў г. Мінска**
**Задзіночанне беларускіх студэнтаў**
**Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны**
**Менская гарадская Рада ТБМ імя Ф. Скарыны**
**Саюз пісьменнікаў Беларусі**
**Свабодны прафсаюз студэнтаў БДУ**
**Свабодны прафсаюз Беларусі**
**Свабодны прафсаюз педагогаў Беларусі**
**Творчая суполка мастакоў мастакоў "Пагоня"**
**Згуртаванне Беларускае Шляхты**
**Краязнаўчае таварыства Беларусі**
**Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне"**
**Беларуская Сацыял-Дэмакратычная Грамада**
**Нацыянальна-Дэмакратычная партыя Беларусі**
**Беларуская Хрысціянска-Дэмакратычная партыя**
**Жаночы Хрысціянска-Дэмакратычны Рух Беларусі**
**Беларуская партыя Свабоды**
**Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне ветэранаў**
**Мартыралог Беларусі**
**Менскі культурна-асветны клуб "Спадчына"**
**Беларускае згуртаванне вайскоўцаў**
**Беларуская нацыянальная партыя**
**Усебеларускі жаночы фонд Еўфарсінні Полацкай**
**Беларуская сялянская партыя**
**Дэпутацкі клуб г. Мінска "Дэпутаты за рэформы"**

*9.03.1995 г.*

# ДОЛАР У СТУПАРЫ. А "ЗАЯЦ"?

## ЭКСПРЭС-КАМЕНТАРЫЙ

**Нягледзячы на ўяўную стабільнасць, фінансавы рынак Беларусі блізкі да перадінфарктнага стану. Агульнае становішча ў эканоміцы сёння такое, што няпэўнасць далейшага развіцця падзей у грашова-крэдытнай сферы вялікая як ніколі.**

З аднаго боку — стабілізацыя беларускага рубля ў адносінах да долара і зніжэнне асноўных працэнтных ставак. З другога — маса эканамічных, кан'юнктурных і чыста спекулятыўных фактараў, здольных вывесці рынак з непрацяглага перыяду адноснай раўнавагі.

У прыватнасці, у бліжэйшы час грашовы рынак будзе вельмі чуйна "прыслухоўвацца" да працэнтнай і эмісійнай палітыкі Нацыянальнага банка і досыць хутка рэагаваць на суадносіны попыту і прапановы крэдытных рэсурсаў на міжбанкаўскім узроўні. Неабходна прызнаць, што фіксацыя абменнага курсу, як і зніжэнне асноўных працэнтных ставак, не толькі не зрабілі стабілізуючага ўплыву на эканамічную сітуацыю ў цэлым, але і моцна занепакоілі банкаўскі сектар.

Яно і зразумела — фінансісты ў пачатку года "разагрэлі" рынак дэпазітаў. Публіка хлынула ўкладаць грошы на кароткія тэрміны — ад аднаго дня да аднаго месяца. Стаўкі па дэпазітах у банках і небанкаўскіх фінансавых установах рэзка пайшлі ўгору, пераваліўшы за 400 працэнтаў гадавых.

Аказалася, што на Беларусі "халяўшчыкаў" таксама дастаткова, і іграюць яны з няменшым азартам, чым расійскія адэпты Лёні Галубкова. І тут банкірам, якія актыўна збіралі інфляцыйны даход, здрадзіла ўдача. Долар на Беларусі ўпаў у ступар. Тым не менш, рэакцыю беларускага кіраўніцтва, звычайна схільнага з любой нагоды гіпертрафіраваць уласныя дасягненні, у дадзеным выпадку нельга ахарактарызаваць іначай, як "маўчанне ягнят".

Сапраўды, ніхто пакуль не ўзяў на сябе адказнасць за такія прыкметныя поспехі ў справе прыцягвання "зайца" за вушы. Сустрэчы з банкірамі паказалі, што адчуванне хуткага банкаўскага крызісу літаральна лятае ў паветры. Па самых песімістычных ацэнках, колькасць банкаў, якія рэальна вядуць актыўную работу на рынку, к канцу III квартала можа скараціцца на 10-15 працэнтаў.

Перспектыва развіцця банкаўскага сектара Беларусі, на думку вядучых банкіраў, выглядае наступным чынам. Банкі-крэдыторы міжволі пачнуць паглынаць неплацежаздольныя банкі. Варыянтаў паглынання некалькі: перадача за даўгі кантрольнага пакета банка-даўжніка, або — узгоднены перахоп некалькіх кліентаў, якія найбольш трывала стаяць на нагах.

Банк-крэдытор за кошт паглынання другога банка можа пашырыць сетку сваіх філіялаў і карэспандэнцкіх адносін, што сёння каштуе досыць дорага. Недахоп гэтага шляху ў тым, што давядзецца прымаць на сябе пасівы і рызыку. Пры рэалізацыі другога шляху — усё з дакладнасцю да наадварот: ніякіх матэрыяльных актываў банк не атрымлівае, затое бярэ шмат грошай і першакласных кліентаў.

Адзначу, дарэчы, што прэцэдэнты ўжо ёсць. Нядаўна "Беларусбанк" набыў 35 працэнтаў акцый банка "Дукат". На думку банкіраў, бліжэйшым вынікам таго, што адбываецца, будзе працэс "канцэнтрацыі" кліентаў у буйных банках. А дробныя пачнуць працаваць як брокерскія, дылерскія ці траставыя фінансавыя кампаніі.

Чакаецца, што ў бліжэйшы час пачнуцца скандалы вакол грошай укладчыкаў, як гэта было ў Ашчадбанку — не так лёгка будзе выплачваць абяцаныя звышвысокія працэнты па прыцягненых сродках ва ўмовах кан'юнктуры рынку, якая сціскаецца. Невыпадкова Нацбанк, страхуючы сябе ад гневу публікі, выступіў з перасцярогамі, адначасова здымаючы з сябе ўсялякую адказнасць за магчымыя калізіі на фінансавым рынку.

Выйграюць, як заўсёды, тыя, хто першымі атрымаюць грошы са сваіх дэпазітаў. Той жа, хто не паспее, — яўна спозніцца, прычым у даволі буйных памерах.

Прынамсі, ёсць і суцяшальная акалічнасць. Фінансавыя канторы месяцца на Беларусі зусім не ў небаскробах. І калі настане "чорны дзень" для нашай банкаўскай сістэмы, фінансістам, як бы густа яны ні выскоквалі з вокнаў, не давядзецца сутыкацца ў паветры.

**Аляксандр МАМЕТАЎ,**
**эканамічны аглядальнік "ЛіМа"**

# ПАРАЎНАННЕ НЕ НА КАРЫСЦЬ

Засталося не так шмат часу да выбараў, да новага складу ВС. Хтосьці паспрабуе зноў вылучыць сваю кандыдатуру і перамагчы, хтосьці добра разумее, што і так дарма і без карысці праседзеў пяць гадоў. Хтосьці ўжо не адэкватна ўспрымае свае заслугі перад народам (даруем: узрост!), але ж і ён "пад заслону" паставіў свой подпіс пад зваротам да прэзідэнта.

Маю на ўвазе два адкрытыя лісты наконт рэферэндуму па дзяржаўнай мове і сімволіцы.

Значная частка "падпісантаў" маюць прамыя адносіны да армейскай службы. З імі ўсё ясна: як надзену партупею, так адразу і... Шмат прозвішчаў незнаёмых — былыя партыйныя сакратары, гаспадарнікі, дзеячы прафсаюзаў, мясцовыя стаханаўцы. Але трапляюцца ў спісе і знаёмцы. Тут знакаміты М. Дзямянцей, які ўвайшоў у гісторыю беларускага парламентарызму сваім "шастым мікрафонам". Тут А. Камай, каравокі сімпатычны мужчына, які ніяк сабе не знойдзе вартага прымянення ў новым часе (як, дарэчы, і яго "партайгеноссэ" І. Антановіч). Тут змагар за экалогію, прафесар Б. Савіцкі. Ну, а яму чым не дагадзілася беларуская мова? "Мой милый, что тебе сделала?.." У Чырвоную кнігу яе саму каб не давялося заносіць пры такіх абаронцах прыроды.

У тэкст заглыбляцца не будзем, важней матывы і мэты. Пракаменціру толькі два найбольш недарэчныя, на мой погляд, моманты.

Момант першы.

"Такім чынам, грамадзяне, якія навучаліся на беларускай мове, атрымаюць нічым **не вытлумачаныя перавагі** (падкрэслена мной. — **Г. К.**) перад тым, хто атрымаў адукацыю на рускай, польскай, украінскай, яўрэйскай, літоўскай і іншых мовах".

Ну дыскрымінацыя, дый толькі! На роднай мове вучыцца і на ёй жа здаваць экзамены пры паступленні ў ВНУ! Ды яшчэ на ўласнай зямлі!

А ланцужок які цікавы выбудаваны, пачынаючы з рускай мовы. Як быццам і ўсе астатнія прэтэндуюць на дзяржаўны статус у Беларусі. Крыўдзяць бедненькую...

Няма межаў абурэнню дзядоў і бабуль, якія, апелюючы да міжнародных прававых актаў, не валодаюць элементарнымі законамі логікі.

Момант другі.

"З улікам таго, што Беларусь з'яўляецца суверэннай дзяржавай, не да твару ёй пераймаць герб і сцяг, няхай і дружалюбнай, але іншай суверэннай дзяржавы — Літвы, якія былі зацверджаны парламентам намнога раней за нашу рэспубліку".

У апошніх радках можна ўбачыць не закід у адрас "Пагоні" і бел-чырвона-белага, а скруху, шкадаванне: маўляў, прыпазніліся... Апярэдзіла нас суседка, халера на яе... А што, іх парламентарыі хіба не памяталі пра поліэтнічны характар Вялікага княства Літоўскага? Ці, можа, другая сусветная вайна іх бокам абышла, не пакінуўшы "шанцу" ветэранам на такія бязглуздыя довады, як скарыстанне сімволікі пры Кубэ...

Усё спазнаецца ў параўнанні. Даводзіцца прызнаць, што дэпутаты Літвы больш дасведчаныя, чым нашы...

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

друку і іншых сродках масавай інфармацыі.

Паспрабуем разабрацца ва ўсіх гэтых калізіях. Сапраўды, гістарычны вопыт народа ў яго стасунках з дзяржавай нарадзіў прымаўку: "Закон, як дышла, куды павярнуў, туды і выйшла". І ўсё-такі, як нагаданыя законы ні круці, як ні паварочвай, замутніць іх сэнс немагчыма. Хоць бы таго ж артыкула 33 Канстытуцыі: "Кожнаму гарантуецца свабода поглядаў, перакананняў і іх свабоднае выказванне"; або артыкула 3 Закона "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі": "Грамадзяне Рэспублікі Беларусь маюць права беспераашкодна шукаць, атрымліваць, выкарыстоўваць і распаўсюджваць інфармацыю пры дапамозе друку і іншых сродкаў масавай інфармацыі, свабодна выказваць праз іх свае думкі, погляды, перакананні".

Папрашу ў чытача прабачэння за доўгае цытаванне, але гэта той выпадак, калі дакумент куды больш красамоўны за журналісцкае слова. Праўда, жывем мы ў такі дзіўны час, калі красамоўства дакумента, закона, бывае, робяць спробу перакрэсліць красамоўства аратарскім, асабліва калі яно падмацавана высокай пасадай прамоўцы.

Так яно і адбылося на другі дзень работы сесіі, калі перад дэпутатамі выступіў прэзідэнт рэспублікі Аляксандр Лукашэнка. У ёй ён выклаў сваё бачанне грамадска-палітычнай і эканамічнай сітуацыі ў Беларусі. Улічваючы той факт, што закранутыя ў выступленні матэрыі досыць складаныя і патрабуюць няспешлівага асэнсавання, спынімся толькі на гісторыі з вызваленнем ад пасады рэдактара "Народнай газеты". Як гэта ні сумна адзначыць, але сутнасць прэзідэнцкіх тлумачэнняў з нагоды з'яўлення Указа зводзілася, па сутнасці, да фраз тыпу: "Я так вырашыў", "Чаша цярпення перапоўнілася" і да т.п. Праўда, было яшчэ некалькі рэзка крытычных заўваг па адрасе "Народнай газеты", якая "ператварылася ў рупар БНФ", "праводзіла антыдзяржаўную палітыку" і г.д. Што тычыць таго, што "Народная газета" з'яўляецца органам Вярхоўнага Савета рэспублікі і толькі ў яго кампетэнцыі прызначаць галоўнага рэдактара, ці, наадварот, вызваляць з гэтай пасады, як і вызначаць напрамак дзейнасці свайго органа, — на ўсе заўвагі дэпутатаў на гэты конт Аляксандр Рыгоравіч рэагаваў прыкладна так: Вярхоўны Савет двойчы ці тройчы заслухоўваў І.Сярэдзіча і безвынікова, а вось я ўзяў і вырашыў справу "в одночасье".

Але калі ацэньваць усё, што здарылася, па вялікім рахунку, дык становіцца відавочным, і гэта падкрэслілі многія дэпутаты, што навядзенне "парадку" ў "Народнай газеце" — чарговы крок у імкненні прэзідэнцкай улады прыбраць да рук сродкі масавай інфармацыі. Прэзідэнт у сваёй прамове і не рабіў з гэтага вялікай тайны, хоць, вядома, падавалася гэта ў прыгожай "упакоўцы" — маўляў, кіруецца ён толькі клопатам аб стабільнасці краіны.

Стала амаль ужо традыцыяй бачыць у журналістах віноўнікаў ці не ўсіх грамадскіх катаклізмаў. І гэта не прэзідэнтам А.Лукашэнкам прыдумана.

Але, на жаль, па ўсім відно, "традыцыя" гэтая яму па душы. Ці не гэтым тлумачыцца і яго рашэнне ініцыіраваць "у мэтах выканання заканадаўства ў дзейнасці сродкаў масавай інфармацыі" стварэнне Наглядальнага Савета пры прэзідэнце? Праўда, з удзелам у яго рабоце прадстаўнікоў грамадскасці. Ды гэта, вядома, толькі фігавы лісток. А што застаецца тады рабіць журналістам? Паўтараць вядомую прымаўку: "Супраць лому няма прыёму"?

Вядома, крыўдна, калі тваё імя абліваюць брудам. І тут Аляксандра Рыгоравіча можна зразумець. Мне, прызнацца, самому не па душы гэткая заліхвацкасць некаторых маіх калег, якія лёгка пераходзяць мяжу, за якой ляжыць ужо элементарная знявага чалавечага гонару, чалавечай вартасці. Але ж ва ўсіх цывілізаваных краінах апошнюю кропку ў падобных калізіях ставяць не пагрозы — "Прыкрыю", "Разганю", а судовыя органы. Шырокавядомы выпадак, калі прэзідэнт Злучаных Штатаў Амерыкі Г.Трумэн падаў у суд на адну з газет, на старонках якой абразілі яго дачку. І нічога, "карона" з яго ў выніку гэтага не звалілася.

Ну, а што Вярхоўны Савет, як ён перанёс нанесеную яму абразу? Быў момант, калі мне падалося, што на хвалі абурэння прэзідэнцкім Указам аб'яднаюцца разам парламенцкая меншасць (апазіцыя) з парламенцкай большасцю і прапанаваная пастанова "Аб незаконным звальненні галоўнага рэдактара "Народнай газеты" будзе прынята. Але здарылася тое, што ўжо здаралася ў гэтых сценах неаднойчы. Пытанне проста забалбаталі ля мікрафонаў. І найперш — ці не дэпутаты апазіцыі БНФ. У выніку быў страчаны тэмп абмеркавання. А тут ужо пачалі чуцца і галасы, што няма куды спяшацца, што трэба пачакаць абяцанага назаўтра выступлення прэзідэнта, які, маўляў, усё расставіць па сваіх месцах.

Спікер і яго намеснікі таксама, падалося, занялі палітыку чакання. Нягледзячы на настойлівыя патрабаванні некаторых дэпутатаў адназначна выказацца па гэтым пытанні, Мечыслаў Іванавіч з уласцівым яму ўменнем абыходзіць вострыя вуглы абмяжоўваўся няўцямным: "Я — як усе", або: "Як прагаласуе Вярхоўны Савет, так і будзе".

Застаецца дадаць, што назаўтра пасля выступлення прэзідэнта, выступлення энергічнага і наступальнага, якое амаль не сустрэла ў зале сур'ёзнага апаніравання, пастаўленая на галасаванне пастанова аб "Народнай газеце" была адхілена.

Падумалася тады: ці не гэтая, даўно дэманструемая, абыякавасць і аморфнасць большасці дэпутатаў справакавала заклік прэзідэнта да парламента самараспусціцца? Заклік, дарэчы, падтрыманы некаторымі дэпутатамі.

Што далей?

**М.ЗАМСКІ**

ЛіМ
ЧАСАПІС



## АПАВЯДАННЕ — ЖАНР ЗМЯСТОЎНЫ

**Як вядома, да лепшых сучасных беларускіх апавядальнікаў належыць і Мікола Ракітны. Да ўсяго ён адзін з нямногіх пісьменнікаў, хто не здраджвае гэтаму жанру. А наколькі важкія набыткі М. Ракітнага ў гэтым кірунку, можна пераканацца, пазнаёміўшыся з яго лепшымі творамі. Выдавецтва "Мастацкая літаратура" выпусціла аднатомнік выбраных апавяданняў М. Ракітнага "Поле ціхае, поле светлае..." (аўтар прадмовы "Як у кроплі расы..." — Алесь Марціновіч). Са старонак тома паўстае багаты і шматгранны свет нашага сучасніка. Як правіла, гэта людзі вёскі, што паказаны ў самых розных сваіх стасунках. Аўтар глыбока адчувае ўнутраны стан чалавечай душы, пранікнёна піша пра каханне, светлым лірызмам прасякнуты пейзажныя замалёўкі.**

## У "ПАЧАТКОВАЙ ШКОЛЕ"...

**У другім нумары цікавым атрымаўся "Літаратурны альбом". У ім прадстаўлены М. Багдановіч, Р. Барадулін (яму, у сувязі з 60-годдзем з дня нараджэння, прысвечана і другая старонка вокладкі), П. Броўка, З. Бядуля, В. Вітка. Расказваецца пра іх жыццёвы і творчы шлях. Публікацыя, безумоўна, спатрэбіцца настаўнікам. Гэтаксама як і пазнавальны матэрыял "Птушкі нашага краю", "Жывая азбука" А. Дзяржынскага, "Зімовыя замалёўкі" Я. Крамко. Змешчаны сцэнарый веснавога ранішніка "Масленіца" (распрацоўкі прапанавала Я. Піскун). Пад рубрыкай "Спадчына" — працяг багата ілюстраванай апрацоўкі У. Ягоўдзікам "Аповесці мінулых гадоў". Часопіс адкрывае новую рубрыку "Свет дзяцінства", падрыхтаваную супрацоўнікамі сектара сацыяльна-педагагічнага праектавання Нацыянальнага інстытута адукацыі. Першыя матэрыялы пераконваюць, што будзе закранацца самы шырокі аспект праблем выхавання падрастаючага пакалення.**

## І ЎСЁ Ж ДЗЕЦІ — ГРАМАДСТВА ПРЫВІЛЕЯВАНАЕ

**Прынамсі, так мяркуюць у выдавецтве "Юнацтва". Нягледзячы на ўсе цяжкасці, тут прымаюць шмат намаганняў, каб своечасова забяспечыць дзяцей неабходнай літаратурай. Галоўная ўвага, безумоўна, надаецца выпуску кніг для маленькіх — дашкольнікаў і малодшых школьнікаў. Прытым не застаюцца па-за ўвагай "Юнацтва" і серыйныя выданні. Як мы паведамлялі раней, выдавецтва паспяхова завяршыла выпуск пятнаццацітомнай бібліятэкі літаратуры былых саюзных рэспублік, а цяпер працягваецца праца яшчэ над дзвюма "Бібліятэкамі..." — замежнай дзіцячай літаратуры і беларускай.**

**Дзесяцітомная "Бібліятэка беларускай дзіцячай літаратуры" ў гэтыя дні папоўнілася чарговай кнігай. Калі ў канцы мінулага года з'явіўся зборнік "Свяці, свяці сонейка...", то цяпер ладны том "Музыка-чарадзей", укладальнікам якога з'яўляецца А. Гурскі. Кніжку склалі чарадзейныя казкі. А яны, як слушна гаворыць у прадмове складальнік, цуд з цудаў: "Чарадзейныя казкі! Хто не захапляўся імі, каго яны не зачароўвалі з маленства?! Многа пакаленняў дзяцей амаль з калыскі ўжо чулі чарадзейныя казкі, запомнілі і выбралі з іх сваю адзіную — самую любімую".**

**Ёсць магчымасць хлопчыкам і дзяўчынкам і гэтым разам выбраць такую казку. У кнігу ўвайшлі такія вядомыя творы, як "Бацькаў дар", "Удовін сын", "Ох і залатая табакерка", "Іван Світаннік" і іншыя, якія падаюцца ў апрацоўцы А. Якімовіча. Тут жа казка "Гарошак", а яе, як вядома, у свой час апрацаваў сам народны пясняр Я. Колас.**

**Адначасова прадстаўлены і творы менш вядомыя, але і яны, думаецца, спадабаюцца малечы. Тым больш, што хораша іх апрацавала Х. Лялько — "Васіль-чараўнік", "Янка-стралец", "Жалезныя чаравічкі" — усіх і не пералічыш.**

**Як сказаў нашаму карэспандэнту дырэктар выдавецтва "Юнацтва" Валянцін Лукша, з 1997 года плануецца пачаць выпуск яшчэ адной серыі — "Казкі народаў свету".**

# "НОВЫЯ" І "СТАРЫЯ"

***У нядаўнім нумары газеты "Наша ніва" нечакана выйшла рэцэнзія з "лажаю" маёй кнігі "Смута". Прадбачачы пэўныя аналогіі (каб не палічылі гэтыя нататкі водпаведдзю, так сказаць, "пакрыўджанага"), мушу папрасіць у сведкі рэдакцыю "ЛіМа": нататкі былі аддадзены ў тыднёвік РАНЕЙ, чым з'явілася ў кіёсках "Наша ніва"; адпаведна, раней, чым я азнаёміўся з рэцэнзіяй. Пасля "азнаямлення" ў нататках не зменена ні слова.***

***АЎТАР.***

## 1

Знаёмы даў мне прачытаць рукапіс свайго новага празаічнага твора. Я прачытаў першы сказ і пацягнуўся да алоўка, каб папpавіць склон, бо было напісана "экзамен па фізікі"; акрамя таго, у сказе адсутнічалі дзве коскі і не пастаўлена ў канцы кропка.

— Не спяшайся, — стрымаў мяне знаёмы. — Тут нічога не трэба рэдагаваць. Лепш пачытай зверху ўніз апошнія літары кожна сказа.

Літары гэтыя складалі імя і прозвішча майго знаёмага.

— Ну і што?

— А тое, што я не знарок падганяў, так напісалася — значыць, маёй рукою вадзіў Бог!

— Але калі паправіць склон, зрабіць правільна — "па фізіцы" — дык зменіцца апошняя літара і ўсё рассыплецца. Ды і рукапіс бруднаваты, пакрэслены...

— Значыць, Богу так трэба было.

— Прабач, але ў такім разе я вымушаны рэдагаваць самога Госпада Бога.

Знаёмы аж адхіснуўся ад мяне:

— Як у цябе паварочваецца язык?! Якое ты ўвогуле маеш права рэдагаваць рукапісы, папраўляць думкі людзей, падганяць іх пад сваё? Вось што: у цябе ўсяліўся сатана, я раю табе схадзіць у царкву, пакаяцца, прыняць прычасце...

Сатана не сатана, але дух спрэчкі ў мяне сапраўды ўсяліўся:

— Паслухай, добры чалавек, у нашым часопісе, ды і ў нашай беларускай мове ў цэлым, ёсць такія правілы... Як табе лепш растлумачыць... Ну, ніяк нельга "экзамен па фізікі", трэба — "па фізіцы". У прынцыпе, ты можаш напісаць "па фізікі", але надрукаваць гэта ў нашым "кансерватыўным" часопісе не можаш. Проста нельга. Гэта як тралейбус і лазня: у прынцыпе ты можаш зайсці голы ў тралейбус і апрануты і лазню, але паводле прынятых правілаў, кансерватыўных...

— Раз чалавеку хочацца так рабіць — значыць, гэта ад Бога! Хачу — пішу "па фізікі", хачу — пішу без знакаў прыпынку, хачу — еду голы ў тралейбусе!

На тым і развіталіся.

Падазраю, што некаторым гэтыя нататкі здадуцца наіўнымі. Падумаеш, праблема — які рэдактар з ёю не сутыкаўся? Прыйшоў графаман, адабраў час, папсаваў крышку нерваў і пайшоў сабе. Але справа ў тым, што гэтага маладога чалавека, майго знаёмага, графаманам не назавеш, ён даволі вядомы ў тутэйшых літаратурных колах, выдаў кніжку і яшчэ рыхтуе мінімум дзве. Галоўнае ж — ён не адзін такі, такіх цяпер даволі многа.

Ён — з **"новых"**.

## 2

"Новыя" — гэта аўтары рубрыкі "ЗНО" ў газеце "Культура", сябры наваполацкага ТВЛ, "Наша ніва", часткова "Свабода", часткова часопіс "Крыніца" і яшчэ сёе-тое.

"Старыя" — гэта "Полымя", "Маладосць", "Першацвет", часткова "ЛіМ", часткова "Беларусь" і "Нёман"...

Паміж "новымі" і "старымі" барацьба. Арэна ці тэрыторыя гэтай барацьбы — калі ён, аўтар, роўня Шэкспіру?

Ужо больш за два гады я ламаю галаву, спісаў паўагульнага сшытка, стараючыся разабрацца, у чым прычына барацьбы паміж "новымі" і "старымі", калі ў кожнага лагера ёсць свае друкаваныя органы? Ну, не падабаюцца, скажам, заўвагі рэдактара "Маладосці" — можна аднесці ў "ЛіМ"; не спадабаецца там — прапанаваць "Крыніцы", у "ЗНО" — усім жа хапае месца!

Перш думаў, што гэта звычайная ўзроставая барацьба паміж старэйшымі літаратарамі і маладзейшымі, славутая "спроба рожак". Не — і ў тым і ў другім лагеры ёсць старэйшыя і маладзейшыя.

Думаў, прычына гэтай барацьбы, так сказаць, "урбаністычная", перакручанае "пагналі нашы гарадскіх"; не — па абодва бакі барыкадаў ёсць і "вяскоўцы", і гараджане.

Вельмі доўгі час думаў, што прычына сацыяльная, што барацьба "новых" — з пісьменнікамі партыйнымі, якія калісь праслаўлялі Саветы, і з іхнімі паслядоўнікамі. Цяпер бачу — не: і ў лагеры "новых" дастаткова людзей, якія аддалі даніну служэнню ідэі "зямнога раю".

Пасля губляўся ў самых розных здагадках. Барацьба за часопісы, "сферы ўплыву"? Глупства, бо і тым і другім проста невыгодна быць у адзіноце, патрэбны антыподы. Як бы выглядала тая ж "Наша ніва", калі б не было "Полымя"? Ды ніяк не выглядала б, бо не было б адцянення.

Можа, змаганне "новых" — з пісьменніцкім апаратам, з афіцыйнай бюракратычнай структураю, якая так ці інакш вымушана прыслужваць цяперашняй нашай дзяржаве на гліняных ножках і тым апраўдваць існаванне такой дзяржавы? Сапраўды, частка "новых" прынцыпова не ўступае ў Саюз пісьменнікаў (трэба аддаць належнае), прынцыпова не падтрымлівае з ім ніякіх сувязяў, словам, цалкам ігнаруе. Але ж толькі частка! А большасць ці ўступаюць, ці "выступаць" назад не збіраюцца, па ўсіх іншых пазіцыях, аднак, падтрымліваючы "новых".

Потым, здалося, я знайшоў прычыну змагання, але яна, гэтая прычына, выглядала настолькі недарэчнай, нават дзікаю, што трэба быў час, каб я абвыкся з ёю, перастаў яе палохацца і пачаў лічыць звычайнай, будзённай прычынаю.

## 3

Думаю, "новыя" змагаюцца са "старымі" з-за **хрысціянства.**

Наводзіць мяне на гэтую думку многае, у тым ліку і нядаўні артыкул шаноўнага, частага аўтара "ЛіМа" В. Аўраменкі за 3 лютага г. г. "Рэлігія і атэізм". У артыкуле няма ні слова пра літаратуру, аднак, думаю, нашы "новыя" смела маглі б уключыць у свой статут ці маніфест некаторыя цытаты з яго. Артыкул, я лічу, выдатны — хоць бы ў стылёвых адносінах, у даступнасці падачы матэрыялу, у кампетэнтнасці аўтара, — выдатны, нягледзячы на два моманты.

Першы — супярэчнасць, якая проста б'е ў вочы: усім тэкстам аўтар даказаў нам, што хрысціянства старэе ці ўжо састарэла, што ідзе пошук "новых аб'ектаў веры, якія (...) паклікалі б да новых **мэт, ідэалаў, надзей"** (усюды падкрэслена мною. — **А. Ф.**); што ў нас на Беларусі "на месцы "дзіцячай веры" застаўся настальгічны ўспамін, крыўда, жаль ці спачуванне", што "феномен хрысціянства на Захадзе ўжо не галоўны вектар тамтэйшага развіцця", што "найбольшае сацыяльнае значэнне ў бліжэйшы час будзе мець **рэхрысціянізацыя**", што і ў нас на Беларусі "працэс рэхрысціянізацыі носіць даволі дэмакратычны характар"...

І вось, даказаўшы ўсё гэта, і добра даказаўшы, аўтар заканчвае: "Як бы там ні было, **хрысціянская традыцыя — наша маці** , і мы, нягледзячы на ўсю сваю бязбожнасць і савецкасць, звязаны з ёю кроўнымі і духоўнымі ніцямі. Якой бы старой і непатрэбнай яна нам не здавалася (наша маці! — **А. Ф.**), паважаць, **шанаваць** і ведаць яе — доўг любога культурнага чалавека".

Тады для чаго быў увесь сыр-бор з рэхрысціянізацыяй? А вось для чаго (пераходзім да другога моманту).

Упэўнены, не пакрыўдзіцца на мяне шаноўны В. Аўраменка, адзін з маіх любімых аўтараў "ЛіМа", калі скажу: толькі прачытаўшы назву "Рэлігія і атэізм", я ўжо ведаў, як дзень белы, што артыкул напісаны з адной-адзінаю мэтай — яшчэ раз убрыкнуць рускае праваслаўе, а заадно і проста праваслаўе; ведаў, што не абыдзецца тут ні без ЦК, ні без ідэолагаў "самой правой на самой Белой...", — словам, не абыдзецца без той бузіны кіеўскага дзядзькі, якую, упэўнены, падпісчыкі-чытачы "ЛіМа", людзі нацыянальна-свядомыя, даўно ўжо вывучылі як "Ойча наш".

Спытаецеся, што ж тут кепскага? — захацеў чалавек, думае так, вось і піша.

Кепска гэта тым, дарагія чытачы і аўтары "ЛіМа", што ў апошнія часы пробным каменем ацэнкі таго ці іншага матэрыялу нашымі нацыянальна-патрыятычнымі выданнямі робяцца выключна адносіны аўтара да Расіі, праваслаўя, а цяпер ужо і да хрысціянства, і адсюль самая гадкая спекуляцыя на гэтай тэме. Мне даводзілася нядаўна гаварыць з чалавекам, якому я вярнуў яго бяздарны, па-руску напісаны опус на 170 старонак, пра экстрасенсаў, і чалавек гэты крычаў са слінаю на губах: "Не имеешь права возвращать, потому что я ругаю здесь русских! Смотри — вот, вот и еще, на 57 странице!..."

Браткі пісьменнікі і непісьменнікі, у каго душа баліць за Беларусь! Разумею, што трэба змагацца з рознымі імпартовымі "соборами", якія арудуюць тут, на нашай зямлі; але давайце будзем трохі хітрэйшыя, трохі разумнейшыя, давайце, каб з нас не смяяліся, не шыць з зайздроснай упартасцю рукаў да таго месца, дзе ён, рукаў, зусім не прыдатны! Давайце трохі радзей прышпільваць гэты "класава-нацыянальны" падыход да ўсяго, пра што б ні пісалася: і да хрысціянства, і да праваслаўя, і да атэізму, і да леташняга снегу. Праваслаўе неабавязкова расейшчына, а расейцы неабавязкова зло.

## 4

Вяртаючыся да нашага змагання "новых" са "старымі", паўтару: (падкрэсліўшы, што гэта толькі мая думка) — змаганне вядзецца паміж пісьменнікамі хрысціянскага кшталту ("старыя") з аднаго боку і нехрысціянскага і атэістамі ("новыя") — з другога.

Хрысціянства наклала свой адбітак на ўсё (як правільна пісаў В. Аўраменка), але найбольш на літаратуру. Яно сфармавала цэлы своеасаблівы кодэкс літаратурных правілаў: стыль, форма, гармонія твора, чалавекалюбства, суперажыванне, прастата ўспрымання, — усё тое, што вельмі ўмоўна называецца рэалізмам у літаратуры. Гэта хрысціянін Вавенарг пасылае нам аж з XVII стагоддзя патрабаванні да мастацкіх твораў:

"Дзе цёмны стыль, там пануе мана";

"калі думку нельга выказаць простымі словамі, значыць, яна нікчэмная і трэба яе адкінуць";

"выкажы няправільную думку ясна, і яна сама сябе абвергне".

Скажаце — дык гэта ж вельмі добра! Няўжо хоць адзін нармальны пісьменнік можа адвяргаць такія правілы, а галоўнае — вырашэнне пытання крытэрыяў ацэнкі твора: геніяльна гэта альбо бяздарна? (Заманліва было б адным махам гэтую барацьбу скончыць, прапанаваўшы толькі адзін крытэрый — чытацкі выбар. Але чытач "безмолвствует".)

У рэдактара з кагорты "старых" у тым выпадку з чалавекам, рукой якога водзіць Бог, не было б ніякіх праблем. Ёсць перададзеныя па эстафеце літаратурнымі геніямі (інтэрнацыяльнымі) ясныя, зразумелыя крытэрыі: у творы павінна прысутнічаць прастата, чытэльнасць, займальнасць, лагічная пабудова (плюс душа). Вызначае ўсё гэта рэдактар, а аўтару нічога не застаецца, як проста **давяраць** яго літаратурнаму густу.

"Новымі" такія крытэрыі адмятаюцца з парога: "Няма ніякіх эстафетаў, ніякіх літаратурных маякоў. Паміж Шэкспірам і цяперашнім літаратарам **адносна небыцця** (часовасці ўсяго і смерці) няма ніякай розніцы. Пясчынка адносна небыцця ўраўніваецца з гарою".

Адсюль: на якой падставе, спытайцеся, я крытыкаваў твор таго "божага" аўтара,

## КАЛЯНДАР САКАВІКА

**22 сакавіка — 130 гадоў з дня нараджэння паэта СТАРОГА УЛАСА (сапраўднае прозвішча Сівы-Сівіцкі, Уладзіслаў Пятровіч). Быў кухарам, аб'ездчыкам, ляснічым, займаўся земляробствам. Памёр 30 верасня 1939 года. З першымі вершамі выступіў у 1907 годзе ў газеце "Наша Ніва". У беларускіх дакастрычніцкіх і заходнебеларускіх календарах змяшчаў вершы і вершаваныя апавяданні. Выступаў і як публіцыст. Дзякуючы В.Рагойшу, у 1990 годзе ў серыі "Спадчына" выдавецтва "Мастацкая літаратура" пабачылі свет творы Старога Уласа пад назвай "Год беларуса". Змешчаны вершы яго, прадстаўлена публіцыстыка, а таксама ўспаміны пра самога пісьменніка.**

**23 сакавіка — 100 гадоў з дня нараджэння ВАСІЛЯ СТАШЭЎСКАГА, аднаго з ахвяр сталінізму (расстраляны 29 кастрычніка 1937 года). Скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, удзельнік першай сусветнай і грамадзянскай войнаў. Вучыўся ў Беларускай драматычнай студыі ў Маскве. Пасля заканчэння Мінскага настаўніцкага інстытута (1924) працаваў на настаўніцкіх курсах і рабфаку ў Оршы, узначальваў культаддзел Аршанскага Акруговага Савета прафсаюзаў. З 1927-га — адказны сакратар літаратурнага аб'яднання "Маладняк", з 1929-га — "Полымя". У 1928—1929 гадах працаваў у рэдакцыі газеты "Савецкая Беларусь".**

**Друкаваўся з 1923 года. Вядомы як драматург (п'есы "На другі дзень", "Бацька і сын", "Кацярына", "Сашка-будаўнік" і іншыя). Выйшлі кнігі прозы "Па сонечным шляху" (1930), "Пад местачковым месяцам" (1931), нарысы "Гаворыць Асінстан...", "Чырвоны сцяг" (1930), "Каласіцца зямля" (1932) і іншыя. У 1963 годзе пабачыла свет кніга выбраных твораў В.Сташэўскага "Шуміць бярэзінка".**

**25 сакавіка — 90 гадоў з дня нараджэння паэта АЛЕСЯ ВЕЧАРА. Ён жа знакаміты беларускі вучоны ў галіне біяхіміі, доктар біялагічных навук, акадэмік Акадэміі навук Беларусі (памёр 4 красавіка 1985 года). Быў адным з кіраўнікоў Аршанскай філіі "Маладняка", у 1928—1930 гг. узначальваў Мінскую філію БелАПП. У 1930—1931 гг. працаваў выкладчыкам у Гарадоцкім тэхнікуме механізацыі сельскай гаспадаркі, з 1933-га — загадваў аддзелам у навукова-даследчым інстытуце харчовай прамысловасці БССР. З 1937 па 1959 гг. вымушаны быў жыць у Краснадары.**

**Першыя вершы апублікаваў у 1926 годзе ў часопісе "Аршанскі маладняк". Аўтар зборнікаў вершаў "Кола дзён" (1930), "Зварот да слова" (1977), паэмы "Мая гімназія", змешчанай у часопісе "Полымя" ў 1979 годзе. Пераклаў на беларускую мову паэму А.С.Пушкіна "Домік у Каломне" (1937).**

**29 сакавіка — 90 гадоў з дня нараджэння беларускага этнографа, фальклярыста, гісторыка МАЙСЕЯ ГРЫНБЛАТА (памёр 4 ліпеня 1983 года). У 1921—1925 гадах ён з'яўляўся акцёрам у знакамітай трупе У.Галубка. Даследаваў духоўную і матэрыяльную культуру, грамадскі побыт, этнагенез беларусаў, займаўся пытаннямі тапа- і антрапанімікі. Адзін з аўтараў кнігі "Беларуская народная вуснапаэтычная творчасць" (1967), нарыса "Беларусы" ў кнізе "Народы еўрапейскай часткі СССР" (т.І, 1964). Складальнік некаторых тамоў у серыі "Беларуская народная творчасць": "Радзінная паэзія" (1971), "Загадкі" (1972, разам з А.Гурскім), "Прыказкі і прымаўкі" (кніга 1-2, 1976), "Выслоўі" (1979).**

## НА СТАРОНКАХ "БЕЛАРУСКАГА АГЛЯДУ"

**Выйшаў чарговы нумар англамоўнага квартальніка "Беларускі Агляд". На 24 старонках змешчаны актуальныя матэрыялы пра важнейшыя палітычныя, эканамічныя і іншыя падзеі як на Бацькаўшчыне, так і ў беларускім замежжы, найперш у Злучаных Штатах Амерыкі. У перадавым артыкуле рэдактар Джоў Прайс расказвае аб тым, што зроблена "Аглядам" за шэсць гадоў, заклікае беларускія грамадскія арганізацыі аказваць падтрымку выданню патрэбнай інфармацыяй.**

**Расказваецца пра падпісанне ЗША, Расіяй і Англіяй пратаколу аб гарантыі незалежнасці і дзяржаўных межаў Беларусі.**

**У рубрыцы "Думкі і заўвагі" А. Турэвіч робіць агляд падзей у Беларусі за 1994 год. У артыкуле Дж. Прайса гаворыцца аб амерыканскай палітыцы ў дачыненні да Расіі і рэспублік былога Савецкага Саюза. У іншых матэрыялах таксама закранаюцца многія надзённыя пытанні.**

# І ПРЫЙДЗЕ РАНІЦА...

*(Пачатак на стар.5)*

Мы гаварылі, а ўвесь час са сцяны за нашай размовай пільна сачыў Ільіч — ён як быццам услухоўваўся, ці не ляпну я чаго крамольнага ці абразлівага для расійскай імперыі. Няўтульна пачувалася ў кабінеце, быццам я чужы зайшоў туды.

І ўсё ж спрабаваў прадоўжыць гутарку з Вайцянковым. Выказваў здзіўленне — чаму аблвыканкам, акрамя шыльды пры ўваходзе, не мае беларускага аздаблення, паперы ў райвыканкамы і арганізацыі дасылаюцца на рускай мове. Амаль усе абласныя структуры, хіба толькі акрамя аддзела культуры, друкуюць прынцыпова на той жа мове суседняга народа. Як усё роўна аблвыканкам (які тут называюць не інакш, як абком партыі, бо там аселі былыя партыйныя сакратары вобласці) зацікаўлены ў супрацьстаянні, у адмаўленні ўсяго беларускага, нашага адраджэння, нашага жыцця...

Казаў, што ў горадзе і ў вобласці ёсць шмат суполак ТБМ, "Талака", БНФ "Адраджэньне", БЗВ, творчыя саюзы мастакоў, пісьменнікаў, шмат увогуле людзей неабыякавых, занепакоеных сённяшнім станам жыцця Бацькаўшчыны. Вось бы, марыў услых, і сабрацца ўсім разам, абмеркаваць балючыя пытанні. Правесці б сесію аблсавета на роднай мове...

Пачуў адно:

— Надо подумать...

Думалася не месяц і не два... А потым выбары прэзідэнта прыспелі. Ва ўсіх раёнах чыноўнікі давалі строгія дырэктывы народу: "Голосовать только за нашего любимого Кебича. Он объединит нас с Россией". Шок і перапалох адбыўся — пры першым туры, калі пад раніцу стала зразумела, што кебічаўшчына адыходзіць у нябыт. У аблвыканкаме не маглі ў тое паверыць, спадзяваліся на другі тур...

Таму, пэўна, і не да сустрэчы было.

А неўзабаве закідалі гарадскі аддзел адукацыі пісьмамі: "Прослушав выступление президента Беларуси Лукашенко А.Г., мы, родители учеников 1 "а" класса СШ N 15, настоятельно просим Вас разрешить обучение наших детей на русском языке...", "Мы, родители, выяснили, что языковой барьер мешает детям успешно усваивать знания...". У некаторых пісьмах нават спасылкі на тое, што ад беларускай мовы ў дзяцей баляць галовы, здараюцца нервовыя расстройствы і г.д. Абсурд дый годзе!

Расказваю пра гэта Генадзю Дзям'янавічу. Ён сказаў:

— Мы вось-вось выдадзім пісьмо-зварот да педагогаў і тых, хто займаецца выхаваннем і адукацыяй. У ім канкрэтна абвесцім: ні ў якім разе мы не пойдзем назад, і таму нельга спадзявацца, што вернецца былое, што дзеці будуць навучацца на рускай мове. Яны будуць навучацца на сваёй, роднай мове, беларускай. На ёй мы будзем выхоўваць падрастаючае пакаленне.

А ганьбаванне беларускай мовы, ігнараванне закона беспакарана працягваецца. Беспакарана! У Гомелі — асабліва. І тут я маю на ўвазе не толькі расійскіх генералаў ды палкоўнікаў, якія прыехалі пасля службы ў Гомель. Я асабіста ведаю шмат расійцаў, якія перажываюць, як і мы, за родную мову беларусаў. Яны нават здзіўляліся з нас — як мы можам спакойна адносіцца да гвалтавання мовы і культуры? Шмат хто з іх прымае непасрэдны ўдзел у нашым адраджэнні. Андрэй Толчын, дэпутат гарадскога Савета, родам з Расіі. Але ён вывучыў беларускую мову, як і жонка, як і дзеці, і вольна карыстаецца ёю, лічыць даўно яе роднай. Нам, беларусам, вельмі патрэбная такая падтрымка!

Каб жа так рабілі ўсе расійцы і асабліва абруселыя беларусы! Былы вайсковец, дэпутат гарсавета Шакараў абурана адказаў мне, не згаджаючыся з маёй думкай: "Да знаете ли вы, что КПСС создала самую могущественную армию в мире!.." Прызнаецца, што ён беларус, але гаварыць на мове свайго бацькі і маці не жадае.

М.Качан, кіраўнік абласной ветэранскай арганізацыі, сакратар цяперашняй ПКБ, дэпутат Вярхоўнага Савета неаднойчы даводзіў пісьменніку Івану Кірэйчыку, які рабіў літаратурную апрацоўку яго ўспамінаў пра вайну: "Белорусы далжны разгаварываць на русскам, ім так спадручнее..." А Качан жа — беларус, з-пад Рудабелкі. Ён, як і яго партыя, даўно вырашылі, якая павінна быць мова ў беларусаў — суседняя, расійская, "ім так спадручнее"...

Начальнік аддзела інфармацыі абласнога выканкама Р.Сцепаненка быў абураны, калі гарвыканкам вызваліў ад працы кіраўніка рабочай групы па напісанні кнігі "Памяць", былога маёра савецкай арміі Меньшакова, які і рускай мовай кепска валодае, а беларускую і зусім не ведае. Абураўся, бо і сам Р.Сцепаненка свае паперы-ўказанні рассылае на рускай мове, хаця тыя ж кнігі "Памяць" выдаюцца на роднай мове...

Гомель, Гомель... Як на нейкай багне жывеш, чакаеш штохвіліны, што з-пад нейкае купіны выпаўзе пачвара з двума языкамі і перад тым, як укусіць, прашыпіць: "Ну что, наелись суверенитета? Они, видите ли, самостоятельности захотели!.."

У Брэсце, у Гародні неяк інакш сябе пачуваю, заходзячы ў школы, вучэльні, у тыя ж выканкамы. Там больш цяплейшая атмасфера, свая, родная, беларуская, блізкая сэрцу і душы. Гомель жа — як калонія Расіі, дзе генералы і бальшавікі, дзе бяспраўе і патуранне брыдоце, антыбеларушчыне.

Летась у Дзень Перамогі праз узмацняльнікі гучалі на ўвесь Гомель панегірыкі слаўнай камуністычнай партыі, што вяла да перамогі, бээсэсэраўскія і чырвоныя сцягі вятрыліся над галовамі людзей. Калі ж хлопцы і дзяўчаты з розных суполак прыйшлі на плошчу Паўстання пад бел-чырвона-белымі штандарамі, іх міліцыянер строга папярэдзіў:

— А вы осторожнее с этими националистическими флагами!

Няўжо хлопец не ведае, у якой дзяржаве жыве?

Памятаю, праходзіла свята — Дзень беларускага пісьменства і друку. З аблвыканкама нікога не было, і ў гонар дзяржавы Беларусь, яе слынных сыноў і дачок ад улады не было сказана ніводнага слова. Знарок? Каб паказаць, што такога свята і не існуе?

Не прыйшоў ніхто з аблвыканкама і тады, калі адкрывалі на плошчы Паўстання Крыж Пакутнікам, дзе выступалі вязні фашысцкіх і бальшавіцкіх турмаў і лагераў. Адкрывала помнік старшыня гарвыканкама Святлана Гальдадэ. І асвяціў яго ўладыка Арыстарх...

Не было прадстаўнікоў улады і 9 верасня, калі грамадскасць горада адзначала ў дзіцячым скверыку Дзень беларускай вайсковай Славы.

У Дзень незалежнасці байцы ўнутраных войск прымалі прысягу ні пад чыім сцягам, а тэкст чыталі... па-руску. Тады ўзнікае пытанне: каму байцы давалі клятву верна служыць?

Перад пачаткам навучальнага года ці не дырэктар школы N 33 У.Сіманенка разам з намесніцай шапнулі бацькам, каб тыя неслі заявы з патрабаваннем адкрыць школу на рускай мове. Панеслі бацькі такія заявы. А побач жа ёсць рускамоўная школа. Ды толькі вельмі ж хацелася У.Сіманенку, каб і яго школа была такая ж. І толькі дзякуючы асабістаму ўмяшанню інспектара гарадскога аддзела адукацыі А.Міткаўца гэтага не адбылося. А калі б не ўмяшаўся?

Спрабавалі такое ж зрабіць бацькі і ў СШ N 61. Але — не сустрэлі паразумення з дырэктарам школы Васілём Сцяпанавічам Нікалаенкам, які ўбачыў у гэтай акцыі антыдзяржаўны выпад. Разам са сваёй намесніцай Зінаідай Іванаўнай Бондаравай не раз і не два сустракаліся яны з бацькамі і мацяркамі, бабулямі і дзядулямі, тлумачылі цярпліва — куды ж дзеці будуць потым паступаць вучыцца далей, калі на экзаменах трэба будзе здаваць родную мову і вучыцца потым у ВНУ прыйдзецца на роднай мове. Забралі бацькі свае заявы назад, яшчэ і прабачэння папрасілі, прызналіся, што невядомыя малойчыкі з розных СС падвучылі іх так зрабіць...

Каб жа так паступалі ўсе кіраўнікі школ і іншых навучальных устаноў! Выстаялі, не паддаліся, хаця з райаддзела адукацыі настойліва раілі браць такія заявы. Ведала пра тое Лідзія Кацегава, якая кіравала аддзелам адукацыі?

У Савецкі райвыканкам з пісьмовай заявай звярнуліся жыхары раёна: "Просим Вашего разрешения открыть в СШ-33 первый класс с русским языком обучения..." Прычына? Яны — расійцы, могуць паехаць некалі назад. А то і зусім без прычыны — адкрыйце і ўсё тут рускія класы!

Гэты факт не ўсхваляваў загадчыцу Савецкага райаддзела адукацыі Л.Кацегаву. Яна не пайшла ў выканкам, не выказала свае адносіны да сітуацыі старшыні райвыканкама Тацяне Філімончык. Старшыня магла б і ў дзяжурным парадку вырашыць тое пытанне, спаслаўшыся на Закон аб мовах у Рэспубліцы Беларусь, але заява была перапраўлена ў гарвыканкам.

І зноў давялося інспектару гарадскога аддзела ўмешвацца. Уважліва вывучаў кожную заяву. І ў вольны ад работы час, вечарамі, хадзіў па кватэрах. Адных пераконваў, другіх і не трэба было ўгаворваць, — яны адразу пагадзіліся, што не супраць, каб дзіця вучылася ў беларускай школе.

Тое, што не хінулася да беларушчыны Т.Філімончык, я ведаў і раней — не раз прысутнічаў на пасяджэннях выканкама. Яна ўсё беларускае ўспрымала ці не ў штыкі. Магла кінуць рэпліку, што тычылася нацыянальных пытанняў: "Это — галиматья! Черт знает что!" І ў райвыканкаме на парог не пускала што-небудзь беларускае: амаль уся нагляднасць і дакументацыя афармляліся на рускай мове.

Тут, у Савецкім раёне горада, усё, як кажуць, па-савецку, як пры бальшавіцка-савецкім рэжыме. Калі ішоў да Лідзіі Кацегавай, кінулася ў вочы: нагляднасць, што размяшчалася на калідоры аддзела адукацыі, была афармлена на рускай мове. Як указанне да выканання. Як загад.

— Я ведаю пра гімназію, — сказала Лідзія Іванаўна. — Яе адкрылі год назад і не ўказвалі ў рашэнні, на якой мове адкрываць. І імя Гааз, я лічу, прысвоілі правільна. Гэта сусветная велічыня. Дзеці будуць вучыцца на яго прыкладзе.

— На якім — прыкладзе?

— На яго грамадзянскім подзвігу... Наогул, я лічу, што райвыканкам і аддзел адукацыі шмат робяць для таго, каб адраджалася мова і культура Беларусі, каб больш было школ і дзіцячых садкоў на роднай мове...

— Дарэчы, вы абяцалі вясной, што да першага верасня гэтага года адкрыецца ў раёне нацыянальны садок. Мы абяцалі сваю практычную дапамогу.

— Не паспелі. У кастрычніку адкрыем.

Загадчыца аддзела валодала добра беларускай мовай, але, на жаль, не вельмі старалася, каб яна квітнела ў школах і садках раёна, асабістых захадаў з яе боку не назіралася. Сёння яна ўжо працуе ў абласным упраўленні адукацыі.

У Савецкім раёне — па-савецку. А ў Гомелі? У вобласці?

Ці заявіў хаця б раз абласны камітэт аб сваёй падтрымцы нацыянальнага адраджэння, правёўшы з дэпутатамі вялікі сход на гэтую тэму? Каб і даклад на ім прагучаў на роднай мове і каб народныя абраннікі карысталіся дзяржаўнай мовай. Каб у размове прагучала занепакоенасць і клопат аб родным краі, аб родным горадзе. Каб Гомель памяняў расійскае, навязанае яму аблічча і адзенне, каб ён аздобіўся ў сваё — адметнае, нацыянальнае, прыгожае і каларытнае. Каб і прыпынкі ў аўтобусах і тралейбусах аб'яўляліся на роднай мове (як у метро ў Мінску), у крамах прадаўцы віталіся на роднай мове; каб вывескі і аб'явы, рэкламы і паведамленні выконваліся толькі на роднай мове. Каб і абласная газета "Гомельская праўда" стала сапраўды беларускай і па змесце і па аздабленні. Каб чыноўнікі ўсіх рангаў асвоілі дзяржаўную мову і карысталіся ёю штодзённа...

Калі ў тых жа чыноўнікаў праз нейкі час пасля выхаду Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь запыталі, чаму яны не карыстаюцца ёю, то ў адказ пачуўся лямант і крык: "Это — ущемление личности! Это — насилие!" Так заяўляў нам загадчык аддзела Навабеліцкага аддзела адукацыі М.Мохараў (гэта ў яго раёне СШ N 15, дзе бацькі патрабавалі навучання іх дзяцей на рускай мове, і ён не ўмяшаўся ў гэты наступ).

Што ж хацець, калі тая ж Лідзія Кацегава на развітанне сказала:

— А я ўсё ж лічу, што насіліе ў гэтай справе прымяняць нельга.

Вось так. Вяртанне свайго роднага з пункту гледжання загадчыкаў аддзела адукацыі — гвалт, уціск.

Але скончыць я хачу на мажорнай ноце.

Не, не вернемся мы ва ўчарашні дзень. Не будзем больш ніколі рабамі. Самі будзем ладкаваць сваё жыццё, сваю будучыню. І ніхто і нішто не зможа перашкодзіць гэтаму.

Радуе і цешыць тое, што ўжо нямала садкоў і школ у Гомелі, дзе гучаць нацыянальныя мелодыі, вучацца, набываюць дзеці веды на роднай мове. Ужо і сесіі гарадскога Савета дэпутаты імкнуцца праводзіць на беларускай мове — упэўнена вядзе на іх рэй (калі выбіраюць старшынёй) намеснік старшыні Віктар Карнеенка. Неўзабаве, як мне сказалі, гарвыканкам будзе весці і справаводства на дзяржаўнай мове. Радуе тое, што і прэзідэнт А.Лукашэнка абяцае праз колькі месяцаў вывучыць родную мову і карыстацца ёю ва ўсіх сферах сваёй дзейнасці. Мо тады і змоўкнуць манкурты, перастануць пісаць "прослушав выступление..."

Нам застаецца толькі спрыяць адраджэнню, каб радзіма для кожнага з нас стала адзінай і роднай, каб квітнела яна і прыгажэла.

**Анатоль БАРОЎСКІ,**

**старшыня Гомельскай абласной рады ТБМ імя Ф.Скарыны**

Пошта

# БОЖА, ДАРУЙ ІМ...

Не магу забыцца на даўнаватую ўжо сустрэчу прэзідэнта А.Лукашэнкі з членамі прэзідыума рэспубліканскай арганізацыі ветэранаў і старшынямі абласных, гарадскіх і пярвічных ветэранскіх арганізацый. У час той сустрэчы кіраўнікі ветэранскіх арганізацый выказалі пажаданне, каб геральдыка памятных медалёў, што будуць уручацца напярэдадні 50-годдзя Перамогі, адпавядала духу таго часу і тым прынцыпам, якімі жыло савецкае грамадства ў гады вайны. Прэзідэнт з разуменнем аднёсся да гэтай прапановы і ў адказ выказаў ідэю правядзення рэферэндуму па пытаннях нацыянальнай сімволікі і дзяржаўнай мовы, якія, па словах сп.Лукашэнкі, ужо набілі аскоміну. І прапанова ветэранаў, і адказ прэзідэнта падаваліся на мове камуністычнай "новоречи", як быццам "идя навстречу пожеланиям трудящихся", што ў перакладзе з "новоречи" на беларускую мову азначае імкненне былой камуністычнай наменклатуры ў згодзе з прэзідэнтам аднавіць на Беларусі сталінскі рэжым і адпаведную яму сімволіку, бо ў гады вайны не было геральдыкі без выявы Сталіна і чырвонага сцяга з хірамаўскім сярпом і молатам. Пацвярджаючы гэтае імкненне, прэзідэнт узрушана запытаў: "Разве эту страну мы защищали под Сталинградом? Разве это наш герб и флаг?" І тут прэзідэнт казаў праўду. На той час не было такой краіны Беларусі і яе сапраўды ніхто не абараняў. Такія сусветныя драпежнікі, як Гітлер і Сталін, разглядалі Беларусь не інакш, як усяго толькі стратэгічную прастору, як тэатр ваенных дзеянняў, дзе ў жорсткай схватцы вырашалі, каму быць, каму не быць, палячы пры гэтым нашы гарады і вёскі ды знішчаючы нашых людзей. За гады другой сусветнай вайны загінуў кожны чацвёрты жыхар Беларусі, а мо і болей, бо хто калі лічыў тых беларусаў, мова і нацыянальныя сімвалы якіх нават сёння набіваюць аскоміну, і не каму чужому, а ўласнаму прэзідэнту, якога "трудящиеся" завалілі пісьмамі з просьбай узаконіць на Беларусі двухмоўе ды аднавіць камуністычную сімволіку (напэўна, ведаюць, каму пішуць. Да Шушкевіча не пісалі).

Але колькі б ні было гэтакіх "трудящихся", ёсць на Беларусі і іншыя людзі, якія добра ведаюць, што пры сённяшнім стане беларускай мовы яна не вытрымае двухмоўя, а без мовы не стане і народа. І цяжка ўявіць сабе, як успрымуць гэтыя іншыя людзі, патрыёты Беларусі, чужую мову і сталінскую сімволіку. Ды не толькі патрыёты.

Як успрыме сталінскую сімволіку той салдат, які пасля Перамогі ў ордэнах і медалях вярнуўся дамоў, а ягоных бацькоў і родзічаў Сталін выслаў у ГУЛАГ ці за тое, што не пажадалі ўступіць у калгас, ці за тое, што, апынуўшыся пад акупацыяй і імкнучыся пракарміць сябе, неяк выжыць, працавалі на ворага.

Як успрыме гэтую сімволіку той салдат, бацькоў якога забілі фашысты, спалілі яго хату, а сам ён трапіў у палон, а пасля Перамогі быў на дзесяць гадоў змешчаны ў ГУЛАГ як здраднік Радзімы.

Як успрыме гэтую сімволіку той салдат, які пасля Перамогі вярнуўся ў родны калгас, але па стане здароўя не выпрацаваў неабходнага мінімуму працадзён і за гэта быў высланы ў Сібір.

Як успрыме гэтую сімволіку той салдат, які, пабачыўшы як жывуць людзі ў еўрапейскіх краінах, услых заўважыў: "Во жывуць! А нам казалі, што капіталісты іх замардавалі!" І за гэтыя словы быў змешчаны на 10 гадоў у ГУЛАГ.

Як успрымуць гэтую сімволіку тысячы ўдоў і сірот загінуўшых салдат, якія пасля Перамогі гадамі жылі ў зямлянках, галадалі і мерзлі і пры гэтым не толькі не ведалі аніякай дапамогі, але яшчэ і плацілі падаткі, аддаючы апошнія кавалак хлеба і конаўку малака.

Як успрымуць гэтую сімволіку ўсе тыя беларусы, якія ў выніку злачынных пралікаў правадыра апынуліся пад акупацыяй, за што потым, пасля Перамогі, іх абмяжоўвалі ў правах як не зусім савецкіх людзей.

Як успрымуць гэтую сімволіку былыя ахвяры палітычных рэпрэсій і блізкія родзічы тых, што без віны вінаватымі загінулі ў ГУЛАГу.

На Беларусі амаль не знайсці сям'і, у якой не стаяў бы жаночы плач па загінуўшых. Звыш двух мільёнаў на вайне і каля мільёна ў ГУЛАГу. Гэта ў сем разоў болей, чым страціла Амерыка за ўсю вайну з Германіяй і Японіяй, і ў чатыры разы болей, чым страціла Англія.

Сталін людзей не шкадаваў. Асабліва беларусаў, якіх ён ніколі не лічыў асобным народам. У 1919 годзе ён выступаў супраць утварэння Беларускай рэспублікі, а з канца 20-х гадоў пад выглядам інтэрнацыяналізму распачаў русіфікацыю — вынішчыў нацыянальнасвядомую інтэлігенцыю, забараніў нацыянальныя традыцыі, сфальсіфікаваў гістарычную спадчыну, пераўтварыў тысячагадовую культуру з нацыянальнай у "нацыянальную па форме і сацыялістычную па змесце", а за публічнае ўжыванне беларускай мовы змяшчаў у ГУЛАГ — як буржуазных нацыяналістаў. У адносінах да беларусаў ён праводзіў палітыку фізічнага і духоўнага генацыду, апраўдваючы яе марксісцкай догмай, паводле якой "пралетарыі радзімы не маюць" і не маюць спагады да тых, хто не з імі. Будучы апантаным гэтай догмай, Сталін, як і ўвогуле камуністы, не разумеў, што кожны народ — гэта непаўторная жамчужына ў скарбніцы сусветнага чалавецтва, і калі знікае адна такая жамчужына, чалавецтва становіцца бяднейшым.

Не разумеюць гэтага і нашы сённяшнія ветэраны і, на жаль, сам прэзідэнт. У адносінах да Сталіна і яго палітыкі генацыду ўсе яны накшталт таго яблычка, што ад яблыні далёка не коціцца. Але гэта іх не віна, а бяда. Яны з дзяцінства выхаваны ў духу тых гадоў і ў адначассе іншымі стаць не могуць. І як бы ні было прыкра чуць і бачыць, калі яны ў сваім імкненні аднавіць СССР і сталінскую сімволіку губляюць пачуццё рэальнасці, выступаючы супраць адраджэння Беларусі, нашай нацыянальнай сімволікі і беларускай мовы, — лепш звяртацца не да іх, а да Усявышняга: "Божа, даруй ім, бо не ведаюць, што робяць. І калі можаш, дай ім розуму не сатвараць чырвонага вяселля над магіламі трох мільёнаў загінуўшых беларусаў".

**Рыгор КЛІМОВІЧ**

*г.Гомель*

# НАВОШТА МНЕ МЕДАЛЬ, КАЛІ Я ЖАБРАЧКА?

Падкажыце, як мне жыць. Я пенсіянерка, але яшчэ працую, і тым не меней, не ведаю, як звесці канцы з канцамі. І пенсія, і заробкі — міззэрныя. Кажуць, дрэнна жывецца медработнікам і настаўнікам. Веру: дрэнна. Аднак жа яшчэ горш жывецца сельскаму бібліятэкару. А ці ведаеце вы, што сельскі бібліятэкар працаваў і сёння працуе па суботах і нядзелях, што выхадны ў яго — панядзелак? Што сельскі бібліятэкар сам прыбірае ў памяшканні, што ў яго няма пыласоса, што робіць ён гэтае прыбіранне сваім венікам і анучай? А колькі кніжнага пылу глытае ён штодня, і гэтак з году ў год?

Колькі гадоў назад я атрымала медаль "Ветэран працы". Скажыце: навошта мне медаль, калі я жабрачка? У мяне няма ўжо нічога ні адзець, ні абуць прыстойнага. Усё даношваю. Пішу і плачу, калі думаю аб тым, як прайшло маё жыццё, колькі я зрабіла дабра сваёй Радзіме, колькі людзей вырасла дастойнымі грамадзянамі і спецыялістамі з маёй дапамогаю, а я засталася жабрачкай. Бібліятэка — храм на сяле. Які вучань абыходзіцца без бібліятэкі, які спецыяліст, які жыхар? Няма такіх. Усе ідуць у бібліятэку. Ды ці варта вам тлумачыць, што такое бібліятэка?

Я засталася пасля вайны адна, з пятнаццаці гадоў круглая сірата. Як цяжка жылося! Мы, дзеці-сіроты, бацькі якіх прыйшлі з вайны і неўзабаве памерлі, не атрымоўвалі ад дзяржавы ніякай дапамогі. Няўжо такім сіротам было лепей, чым тым, што знаходзіліся ў дзіцячых дамах? І мы ўсё ж выжывалі, і многія выжылі. Ці я была вінаватая, што мая маці памерла перад вайной, бацька прыйшоў з вайны і памёр у 1952 годзе, брат адзіны родны быў і той у тым жа 1952 годзе падарваўся на міне. Як мне жылося? Чаму такія дзеці пры распрацоўцы законаў аб пенсіях не атрымалі ніякіх ільгот? Чаму кругом столькі льготаў, а каму і патрэбна было б іх даць, дык іх няма? Чаму?

Цяжка, вельмі цяжка жыць. А тут яшчэ аперацыя. Няма за што купіць лякарствы. І Бог не чуе маёй малітвы, маёй просьбы забраць да сябе, у жыццё вечнае. А іншым шляхам пайсці з жыцця страшна і грэх вялікі.

Мне пяцьдзесят восем гадоў. Жыву адна. Ёсць сын, ён мае сям'ю, дваіх дзетак, яму жывецца таксама вельмі цяжка.

Жыву без тэлевізара. Вярнулася пасля аперацыі, а ён узяў ды згарэў. Служыў ён мне 27 гадоў. А цяпер мне тэлевізара ніколі не бачыць.

Вось так жыве культура. Прабачце, што дрэнна напісала: няма акуляраў, а ўжо недабачу.

**Н.ЗАЙЦАВА,**
**загадчыца Заліпскай сельскай бібліятэкі Гомельскага раёна.**

# У "БЛІЖЭЙШЫМ ЗАМЕЖЖЫ" КУЛЬТУРА ВЫЖЫВАЕ...

Шкада, але палітычныя рэаліі часу звялі ў нішто інфармацыю пра культурныя працэсы, якія адбываюцца ў суседняй Расіі, ды і не толькі ў ёй. З адзінкавых нумароў часопісаў, што зрэдку трапляюць да нас, даведваешся, што толькі ў Маскве каля паўсотні галерэяў, якія кінуліся ў авангардны хаос моладзі, што Ілля Глазуноў "узначаліў" мастацкі рух да рэлігійнасці, стварыўшы адпаведную навучальную ўстанову, што дасюль невядомы нам мастак-рэфарматар Уладзімір Лубенка вынайшаў і сфармуляваў трэці, пасля навуковага і рэлігійнага, метад пазнання свету і сябе — сістэму стрыжневай ісціны — і стварыў на аснове гэтай сістэмы пецярбургскую Малую (дзіцячую) акадэмію мастацтваў...

Выстава навучэнцаў акадэміі і яе стваральніка адкрылася днямі ў Рэспубліканскім палацы моладзі і літаральна ашаламіла нейкай свежасцю і святлом бачання сусвету. І таму, што гэта прыклад, як праз усе няроўнасці эканамічных і адміністрацыйных перабудоў, пераходзячы са статуса ў статус, з дзяржавы ў дзяржаву захоўваць свой твар дзякуючы цэласнай сістэме адукацыі. Адкрытая ў 1985 г. пры Рускім музеі яго супрацоўнікам студыя праз два гады натуральна перарасла ў маленькі камбінат мастацтваў. Там вучылі не толькі жывапісу, архітэктурнаму мадэляванню, пантаміме, лепцы, музыцы, там стварыўся свой мікраклімат з тэатральнымі святамі, сямейнай працай, нефармальнымі сустрэчамі з творчымі асобамі. Сфарміравалася мадэль, вядомая і ацэненая ў свеце, як поліфункцыянальнае навучанне. А ў аснову яго У. Лубенка паклаў сваю сістэму гошукаў сутнасці рэчы, духоўнасці і самавыхаванне чалавека.

Так, гэта унікальны прыклад рэалізацыі творчай аўтарскай ідэі. Але унікальны ён яшчэ і тым, што атрымаў падтрымку дзяржавы, спачатку Рускага музея, пазней гарадскіх і федэральных уладаў. Акадэміі, дзе займаюцца дзеці з сямі год аж да заканчэння школы, далі дазвол на манументальныя роспісы не толькі дзіцячых садкоў і ЗАГСаў, але кафэ-балета Марыінскага тэатра, Дзяржаўнай дзіцячай бібліятэкі Масквы. Акадэмія можа дазволіць сабе раскошу бясплатнага навучання двухсот чалавек — дзяцей з усяго горада. Яна адкрыла свае філіялы ў Маскве, Сочы, Саратаве, Калузе. І развіццё яе, нягледзячы на згоду альбо нязгоду з яе прынцыпамі, працягваецца.

Ці ж не варты гэты практычны эксперымент пецярбуржцаў увагі і прынцыповага пераймання нашымі дзяржаўнымі ўладамі?

**Н. Ш.**



**Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Алесю Крыгу з выпадку напаткаўшага яго гора — смерці МАЦІ.**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае шчырае спачуванне народнаму паэту Беларусі Максіму Танку з прычыны вялікага гора — смерці жонкі Любові Андрэеўны.**

Марцін КОЎЗКІ

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

На семінары ў акадэміі кіравання слухачы атрымалі заданне склікаць членаў ЦК на пленум.

— Дзе ты іх зараз знойдзеш? — засумняваўся адзін, але другі сказаў: — Дайце мне даведнік былога ЦК, даведнік сучасных камерцыйных структур — і назаўтра кворум будзе.

— А як вы прымусіце людзей сабрацца? — спытаўся выкладчык.

— Скажу, што, акрамя былых пасад, за імі захаваюцца і новыя, дзе "варацца" долары, — мігам зляцяцца.

"Дападкі пайшоў слухач, — падумаў выкладчык, — такога і на пленум можна было б запрасіць".

●

Не кпіце, амерыканскія цёткі, з нашай беларускай кабеты, што цыруем па вечарах калготкі і мыем цэлафанавыя пакеты. Патаўчыцеся, як мы, у трамваях, калі сеткі рукі абрываюць, і тады мы за вас, амерыканскія цёткі, перамыем пакеты і пацыруем калготкі.

●

Чуўся голас з адной установы пра яднанне на братняй аснове: пры адмове ад роднае мовы нашу мову бяруць пад ахову.

●

"Увага, наверсе працуюць!" — папярэджваў плакат тых, хто хадзіў унізе. Клапаціліся аб тых, што наверсе.

●

Як прадаўся філасофскі мой раман? А яго, брат, загарнулі ў цэлафан. А на тым на цэлафане дзеўчанё без сарафана і без лішняга якогасьці адзетку. Шчыра дзякуй табе, дзетка, сімпатычная кабетка, што сілкуеш мудрасцю прафанаў.

●

Нябесная механіка. Спазніўся маладзік: улік. Ад хмар на небе цень: сандзень. Мільгнула сонейка і згінула адразу: пайшло на базу. Прапалі знічкі: абязлічка. І на небе, як на зямлі.

●

Зноў і зноў гучыць гэты матыў: што б ён напісаў, калі б не піў. Што б ён напісаў, калі б не жыў? Не пісалася, таму і піў.

●

Акцёр, які іграў у кіно Брэжнева і атрымліваў за гэта ўзнагароды, хваліўся, што нават анекдот аб ім расказваў. "А не баяліся КДБ?" — спытаў карэспандэнт. "Чэкісты нічога не маглі зрабіць: у анекдоце Брэжнеў выглядаў разумнейшым за Картэра". Вучыцеся, прыстасаванцы!

●

— Нашто каня перабудавалі? — спытала бабуля, убачыўшы вярблюда. — Каб еў калючкі, — адказалі бабулі.

●

Мінае? Не, падмінае. Грэбуе? Не, падграбае. Перажывае? Не, пераждоўвае. Сумуе? Не, падсумоўвае.

●

Ні аб чым не думаць ці думаць ні аб чым? Д'ябальская ж розніца!

**Яго ўсмешку найлепш ведаюць жыхары гарадоў і вёсак, зацярушаных чарнобыльскім попелам. Айцец Аляксандр Надсон узначальвае лонданскі Беларускі камітэт дапамогі ахвярам радыяцыі, які мае прадстаўніцтвы ў ЗША, Канадзе, Аўстраліі і Францыі.**

**Добра вядомы а.Аляксандр і ў асяроддзі нашай эміграцыі. Ён — апостальскі візітатар для беларусаў-католікаў за мяжой, кіраўнік Беларускай каталіцкай місіі Англіі і Францыі. З 1971 года гэты ахвярны чалавек, жыццё якога, здаецца, ніколі не мела супярэчнасцяў з яго святарскім чынам, з'яўляецца дырэктарам Беларускай бібліятэкі імя Францішка Скарыны ў Лондане.**
**Нарадзіўся айцец Аляксандр у 1926 годзе ў мястэчку Гарадзея пад Нясвіжам у настаўніцкай сям'і. Ліхалецце другой сусветнай вайны закінула ў Францыю, дзе ён браў удзел ва ўзброенай барацьбе з гітлераўцамі. У мірны час вывучаў матэматыку ў Лонданскім і Рымскім універсітэтах, а пачуўшы пакліканне да служэння Богу, паступіў у Грэцкую калегію - Грыгарыянскага папскага універсітэта, дзе студыяваў філасофію і тэалогію, атрымаўшы годнасць магістра багаслоўя. З 1958 года доўжыцца яго святарства.**

**Рыхтуючы лекцыі па беларусазнаўстве для вышэйшых навучальных установ Англіі, а.Аляксандр чынна ўдзельнічае ў дзейнасці "Англа-Беларускага Таварыства", што мае на мэце пашырэнне ведаў пра Беларусь у англамоўным свеце. Надзвычай плённа працуе ён як перакладчык на нашу мову рэлігійных і найперш набажэнскіх тэкстаў. Яго пяру належыць шэраг гістарычных і тэалагічных даследаванняў, у тым ліку кніга "Святы Кірыла Тураўскі" (Лондан, 1968).**

**Прапанаванае чытачам "ЛіМа" казанне айца Аляксандра прагучала тры дзесяцігоддзі таму і было надрукавана ў эміграцыйным часопісе "Божым Шляхам" (1964, N 84). Няхай гэтае пранікнёнае слова дадасць нам святочнай узнёсласці і паслужыць прыкладам красамоўства і патрыятызму тым святарам, якія гатовыя маліцца ў сваіх храмах за што заўгодна, апрача будучыні незалежнае Беларусі.**

**Уладзімір АРЛОЎ**

# КАЗАННЕ НА 25 САКАВІКА



*А. НАДСОН перадае лекі Хойніцкай райбальніцы.* *Фота А. Клешчука*

Магчыма, прыходзілася вам калі быць на вялікім канцэрце, дзе галасы музычных прыладаў, пад кіраўніцтвам умелага дырыгента, зліваюцца ў адну магутную мелодыю, якая пераймае нас да глыбі душы і пераносіць да вышэйшага, лепшага свету. Мы не чуем у гэтай музыцы гуку паасобных прыладаў, а толькі адно гарманічнае цэлае. Няхай толькі парвецца найменшая струна ў апошняй скрыпцы і адразу ўрываецца ў музыку непрыемны скрыгат, які парушае ўвесь парадак і псуе гармонію.

Нешта падобнае назіраецца ў цэлым сусвеце, які сваёй прыгажосцю і парадкам адлюстроўвае бясконечны розум Таго, Хто яго стварыў. Свет з'яўляецца быццам адной вялікай песняй на Божую славу. Нездарма натхнёны псалміст, гледзячы на прыгажосць свету, усклікнуў у захапленні:

**Нябёсы апавядаюць**
**славу Божую**
**І Прасторы выяўляюць**
**творчасць рук Ягоных.**
(Пс. 18).

Паколькі ўвесь свет ёсць адлюстраваннем велічы Божай, дык чалавек ёсць ім у асаблівасці; бо ўсе рэчы славяць Бога сваім існаваннем, а людзі хваляць Яго разумна. Таму ў іншым месцы псалміст кажа:

**Пляскайце ў далоні,**
**ўсе народы,**
**Спявайце Богу**
**ў радасці вялікай.**
(Пс. 46).

Бог, аднак, ёсць бясконечны ў сваёй дасканаласці, а мы агранічаныя. Дзеля гэтага захацеў наш Тварэц падзяліць усіх людзей на асобныя групы, на народы, даючы кожнаму з іх сваю мову, характар і іншыя асаблівыя дараванні. Развіваючы гэтыя даныя яму ад Бога дары, кожны народ гэтым самым хваліць свайго Тварца, а ўсе яны зліваюцца ў адну магутную песню на Божую славу. У гэтым вялікім хоры, быццам у вялікай сям'і, няма нікога лішняга: кожны мае сваё належнае месца і вы не можаце выкінуць нікога, не папсаваўшы гармоніі.

Падзяліўшы людзей на народы, Уседобры Бог улажыў у сэрца кожнага чалавека асаблівую любоў да таго краю, дзе радзіліся ягоныя бацькі; любоў да народа, які жыве ў гэтым краі, а таксама да мовы, на якой гаворыць гэты народ і на якой ён сам пачуў першыя ласкавыя словы з вуснаў сваёй маці. Мы завём гэты край "Бацькаўшчынай".

Слова "Бацькаўшчына" паходзіць ад "бацькі". Ці ж можа быць даражэйшае слова ў нашым слоўніку? Бацькам, або Айцом Нябесным, мы называем Бога, які нас стварыў. Бацькамі мы называем тых найдаражэйшых нам людзей, якія нам далі гэтае дачаснае жыццё. Дык і Бацькаўшчына таксама цесна звязана з дарам жыцця, бо інакш мы б яе так не назвалі. Праўда, яна нам не дае жыцця, але затое мы ўраслі ў яе, быццам дрэва карэньмі, і чэрпаем з яе жыватворчыя сокі. Бо толькі на грунце Бацькаўшчыны, у акружэнні свайго народа, агрэтыя цёплымі праменнямі роднае мовы, мы можам вырасці на паўнавартасных адзінак. Нешчаслівы той, хто добравольна адрэзвае сябе ад гэтых родных жыватворчых крыніц і прадаецца чужынцам: ён быццам бясплоднае дрэва, якое ніколі не можа поўнасцю расцвісці і прынесці пладоў. Любоў Бацькаўшчыны ёсць нечымсьці прыродным для чалавека, дарам Божым. Таму той, хто цураецца сваёй Бацькаўшчыны, з'яўляецца вырадкам.

Калі б хто сумняваўся ў гэтым, дык хай паслухае, што кажа святы Павел. Гэты вялікі Апостал, які столькі папрацаваў сярод іншых народаў дзеля праўды Хрыстовай і які ў канцы аддаў сваё жыццё за Хрыста, праз усё жыццё аставаўся патрыётам жыдоўскага народа. Наскольки вялікая была ягоная любоў да свайго народа, мы можам бачыць у ягоным лісце да Рымлянаў: "Праўду кажу ў Хрысце, не маню; сведчыць мне сумленне маё ў Духу Святым, што вялікі для мяне сум і мука няўстанная сэрцу майму: бо я б хацеў сам быць адлучаным ад Хрыста за братоў маіх, родных мне целам, якія ёсць Ізраільцяне" (Рым. 9, 1-3).

У святле вышэйсказанага як жа праўдзіва і прыгожа гучаць словы нашага вялікага паэта Францішка Багушэвіча: "Мова наша святая, бо яна нам ад Бога даная".

У вялікай сям'і народаў свету ёсць таксама і Беларускі Народ. Раз Бог захацеў, каб Беларускі Народ існаваў, дык у сваім адвечным плане Бог мае для яго асобае месца і мэту. Відаць, наш народ мае свае асаблівасці і дары, якія робяць яго іншым ад другіх народаў. Не даваць яму жыць свабодна і развіваць гэтыя Божыя дары ёсць безумоўна грахом і праступкам.

Калі 25 Сакавіка 1918 года Беларускі Народ заявіў, што хоча быць гаспадаром свайго лёсу, ён дамагаўся толькі таго, што яму па справядлівасці належыцца. Ён хацеў быць тым, чым яго стварыў Бог. Таму гэты дзень з'яўляецца для ўсіх беларусаў, дзе б яны ні былі, сімвалам іхніх найбольш запаветных імкненняў.

Так ёсць на гэтым свеце, што калі мы збунтуемся супроць Бога, дык мы таксама становімся ворагамі іншых людзей, бо тады для нас няма нічога святога, акрамя собскага інтарэсу. У адносінах паміж народамі гэта праяўляецца ў форме неабмежаванага шавінізму, які змушае людзей лічыць свой народ за найлепшы і адмаўляе права на існаванне іншым.

Беларускаму народу было якраз адмоўлена права на існаванне. Маладая беларуская дзяржава была здушаная перад тым, чым яна магла акрэпнуць. Аднак мы не павінны зайздросціць лёсу тых, якія не далі нам жыць свабодна. Не шукайма таксама помсты: супроць іх сведчаць перад Богам слёзы і цярпенні мільёнаў тых, якіх яны анешчаслівілі. Лепш памолімся за іх, каб яны зноў звярнулі свае сэрцы да Бога і каб адзін дзень мы ўсе маглі быць тым, чым мы павінны быць: дзецьмі адной сям'і, дзе бацькам ёсць сам Бог.

Адначасова верым у справядлівасць Божую. Дамагаймася таго, што нам справядліва належыцца, і Бог нам дапаможа.

Гэтая вера ў справядлівасць Божую і надзея на лепшую долю Беларускага Народа асабліва патрэбная нам тут на выгнанні. Будучы адарванымі ад Бацькаўшчыны і акружанымі столькімі спакусамі, мы можам вельмі лёгка зняверыцца і пакінуць усё беларускае. Не рабем гэтага. Беларусь патрэбная перадусім для нас саміх. Калі мы забудземся пра яе, дык мы страцім нешта з нашай чалавечай вартасці: нам тады не астанецца нічога іншага, як уключыцца ў вялікую масу тых, чыёй адзінай мэтай жыцця ёсць пагоня за матэрыяльным дабрабытам. Але Беларусь таксама патрабуе нас. Не забываймася, чаму мы цяпер на чужыне і што мы апынуліся тут не добравольна. Памятайма аб нашых братах на Бацькаўшчыне і будзем рабіць тое на карысць Беларусі, чаго яны там не ў стане цяпер рабіць. Мы павінны быць амбасадарамі Беларусі ў вольным свеце, не даючы заснуць сумленню іншых народаў і пагадзіцца з фактам, што нашая Бацькаўшчына да гэтага часу церпіць у няволі.

Успомнім выгнанчы жыдоўскі народ, які будучы ў вавілонскай няволі, казаў вуснамі свайго псалміста:

**Калі забуду цябе,**
**Ерусалім,**
**Хай адсохне правіца мая,**
**Хай язык мой прыліпне**
**да гартані маёй;**
**Калі не буду**
**помніць цябе,**
**Калі не пастаўлю**
**Ерусалім**
**За найвышэйшую**
**радасць маю.**

Хацеў бы скончыць гэтае казанне ноткай радасці. Так здарылася, што прагалошанне незалежнасці Беларусі адбылося ў дзень, калі Святая Царква абходзіць вялікае свята Дабравешчання. У гэты дзень мы ўспамінаем тое вялікае здарэнне, калі Архангел Гаўрыіл абвесціў Найсвяцейшай Дзеве Марыі, што яна станецца Маткаю Бога. Гэта і ёсць тая Добрая Вестка, якой чакала ўсё чалавецтва, бо з прыходам на свет Госпада Нашага Ісуса Хрыста мінула панаванне граху і людзі зноў маюць магчымасць стацца дзецьмі Божымі.

Безумоўна, тут супадзенне дат выпадковае. Нам аднак усё ж такі хацелася б уважаць наша нацыянальнае свята, як добрую вестку, якая прарочыць для Беларускага народа лепшую, шчаслівую будучыню. Маючы ў сабе такое абяцанне лепшай долі, нам лягчэй перанесці цяжкасці цяперашняга часу.

А цяпер, паколькі наша свята прыпадае ў дзень Дабравешчання, паручым асабліва сябе і ўвесь Беларускі народ Найсвяцейшай Багародзіцы Дзеве Марыі, якая з'яўляецца Маткаю нашага сапраўднага Жыцця, Госпада і Бога і Збаўцы Нашага Ісуса Хрыста. Хай Яна гляне міласэрна на Ейны верны Беларускі народ і благаславіць яго з Жыровічаў, Смаленска, Вострай Брамы і Менска і хай вымаліць для яго лепшую долю! А мы ведаем, што малітва Маці да свайго Боскага Сына можа ўсё.

**а.Аляксандр НАДСОН**

*1964 г.*


**ЛіМ** ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
**Саюз пісьменнікаў Беларусі і Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

***Газету рэдагавалі***

| | |
|---|---|
| *Х.Дунец* | *(1932-35)* |
| *І.Гурскі* | *(1935-41)* |
| *А.Куляшоў* | *(1945-46)* |
| *М.Горцаў* | *(1947-49)* |
| *П.Кавалёў* | *(1949-50)* |
| *В.Вітка* | *(1951-57)* |
| *М.Ткачоў* | *(1957-59)* |
| *Я.Шарахоўскі* | *(1959-61)* |
| *Н.Пашкевіч* | *(1961-69)* |
| *Л.Прокша* | *(1969-72)* |
| *Х.Жычка* | *(1972-76)* |
| *А.Асіпенка* | *(1976-80)* |
| *А.Жук* | *(1980-86)* |
| *А.Вярцінскі* | *(1986-90)* |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**
**Міхась ЗАМСКІ**
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**
**Жана ЛАШКЕВІЧ**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ**
**Барыс ПЯТРОВІЧ,** ***першы намеснік галоўнага рэдактара***
**Юрась СВІРКА**
**Віктар ШНІП,** ***намеснік галоўнага рэдактара***

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі -- ***332-461***
намеснікі галоўнага рэдактара -- ***332-525, 331-985***
аддзелы:
публіцыстыкі -- ***332-525***
пісьмаў і грамадскай думкі -- ***331-985***
літаратурнага жыцця -- ***332-462***
крытыкі і бібліяграфіі -- ***332-204***
паэзіі і прозы -- ***332-204***
музыкі -- ***332-153***
тэатра, кіно і тэлебачання -- ***332-153***
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў -- ***332-462***
навін -- ***332-462***
мастацкага афармлення -- ***332-204***
фотакарэспандэнт -- ***332-462***
бухгалтэрыя -- ***268-640***

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра «ЛіМа»**
**Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма «Дайнова»**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку". (г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 11264.
Нумар падпісаны 23. 3.1995 г.

ЗАКАЗ 662
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12